


# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

18 верасня 2020 года №38 (1325)

18+




**Расказваем пра тое, як дапамагчы сабе і блізкім людзям, калі жыццё становіцца вельмі цяжкім**

# Як выбраць жыццё, калі яно падаецца невыносным

старонка 18

**Загадчык псіханеўралагічнага дыспансера, галоўны пазаштатны доктар-псіхіятр-нарколаг Маладзечанскага раёна Аляксандр Бажко кажа: «Людзі – як алоўкі. Кожны малюе жыццё сабе сам. Хтосьці ламаецца, хтосьці тупіць, а нехта заточваецца і малюе жыццё далей».**

Фота Настассі УТКІНАЙ.



## «Я ежу купляў». Расказваем пра затрыманне ў краме «Суседзі»

старонка 5







## Пратэсты ў Маладзечне працягваюцца з затрыманнем іх удзельнікаў

старонкі 20-21

## Якую працу і заробкі прапануюць у рэгіёне

старонка 3

ISSN 1991–7155

Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by

# Актывіста, які адседзеў сем сутак за хуліганства, цалкам апраўдалі

## Ён будзе патрабаваць кампенсацыі

СМАРГОНЬ

**10 верасня ў Смаргонскім раённым судзе разглядалі справу актывіста Аляксандра Паплаўскага. У выніку смаргонца, які ўжо адседзеў па артыкуле за дробнае хуліганства сем сутак, цалкам апраўдалі.**

Нагадаем, што 5 жніўня на выбарчы ўчастак №16 у Смаргоні прыйшоў гараджанін Аляксандр Паплаўскі. Ён хацеў сфатаграфаваць вынікі датэрміновага галасавання за гэты дзень.

Падчас фатаграфавання ў Паплаўскага адбыўся канфлікт са старшынёй камісіі **Аленай Атцецкай**. Гэта трапіла на відэа, якое здымаў сам Паплаўскі.

Пасля старшыня Атцецкая напісала заяву на Паплаўскага, які нібыта перашкаджаў працаваць выбарчай камісіі. 7 жніўня Аляксандра Паплаўскага асудзілі за дробнае хуліганства (артыкул 17.1 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях). Аляксандру далі сем сутак. Старшынёй суда была **Людміла Пятрова**.

**Хуліганствам суд прызнаў відэаздымку без дазволу старшыні камісіі.**

А таксама тое, што Паплаўскі папярэдзіў Атцецкую падчас датэрміновага галасавання аб крымінальнай адказнасці, калі будуць сфальсіфікаваны вынікі выбараў.

Актывіст не пагадзіўся з абвінавачаннем і абскардзіў рашэнне раённага суда Смаргоні ў Гродзенскім абласным судзе. На разглядзе справы ў абласным судзе Аляксандра не было.

У выніку пастановай Гродзенскага суда ад 24 жніўня пастанову Смаргонскага суда адмянілі і справу накіравалі на разгляд новаму смаргонскаму суддзі **Дзмітрыю Дамараду**.

**По хадайніцтве Аляксандра Паплаўскага Дамарад праводзіў судовае пасяджэнне па-беларуску.**

Суд 10 верасня цягнуўся каля шасці гадзін.

У выніку суддзя прыйшоў да высновы, што справу трэба спыніць па прычыне адсутнасці ў дзеяннях Аляксандра Паплаўскага складу адміністрацыйнага правапарушэння.

Пастанова суда пакуль не ўступіла ў сілу.

– Канешне, я задаволены зыходам суда. А за сем сутак, якія мусіў адседзець, буду патрабаваць кампенсацыю, – паведаміў Аляксандр карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты».



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




Смаргонец Аляксандр Паплаўскі.



Вілейка. Тут патрэбныя работнікі ў культуру і медыцыну.

# Ёсць заробкі ў тысячу і нават 1400. Але іх мала

## Якія вакансіі і заробкі прапануюць у рэгіёне

**ВАЛОЖЫН ВІЛЕЙКА МАЛАДЗЕЧНА МЯДЗЕЛ**

**Мы прааналізавалі, якія прапановы па вакансіях і заробках з'явіліся за апошні тыдзень на сайце Дзяржаўнай службы занятасці.**

Найбольш прапаноў – ад устаноў Маладзечаншчы і Вілейшчыны. Значна менш – на Валожыншчыне і Мядзельшчыне.

### Вілейка: патрэбныя культработнікі і дактары

Некалькі вакансій прапануе прадпрыемства «Буддэталі». Сюды патрэбны аператар гранулятара, заробак – ад 620 рублёў, прыбіральшчык – ад 380. Аднолькавую суму – ад 680 – прапануюць трактарысту і інжынеру-тэхнолагу. Сталяру абяцаюць ад 520.

Выкладчык заатэхніі ў Ільянскім аграрным каледжы атрымае ад 600. Камендант там жа – ад 375. Яшчэ дзве вакансіі ад каледжа – інжынер-праграміст – ад 475 і лабарант – ад 400.

У гімназію «Логас» патрэбны шэф-повар. Заробак – ад 500 рублёў. Звычайны повар атрымае тут ад 391.

У вілейскую ЦРБ возьмуць рабочага, які будзе мыць і рамантаваць спецадзенне, прапануюць – ад 375 рублёў. Доктару заплацяць ад 600.

У «Дабраном» патрабуюцца касіры-кантралёры, загадчык аддзела, грузчык. Загадчык атрымае найбольш – ад 800, грузчык найменш – ад 550 рублёў.

Некалькі спецыялістаў возьмуць у Вілейскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Дактары – эпідэміёлаг, бактэрыёлаг, гігіеніст. Кожнаму прапануюць ад 800 рублёў. Туды ж патрэбны кіроўца і меддэзынфектар. Заробак кожнаму – ад 400. На сто рублёў больш зможа тут атрымаць памочнік доктара-гігіеніста.

Райветстанцыя шукае некалькіх спецыялістаў – дэзынфектара, ветфельчар і доктара, юрысконсульта, намесніка галоўнага доктара, доктара-радыёлага на паўстаўкі. У ветлячэбніцу ў Даўгінаве возьмуць доктара-эпізаатолага і загадчыка. Самы вялікі заробак – ад 600 рублёў – прапануюць намесніку галоўнага ветдоктара ў Вілейцы і загадчыку ветлячэбніцы ў Даўгінаве.

Цэнтралізаваная клубная сістэма запрашае кіраўнікоў гурткоў, прыбіральшчыка, хормайстра, загадчыка клуба ў Ілью, мастацкага кіраўніка і культарганізатара ў Вязынь. Шмат пасад на паўстаўкі. Больш за 500 рублёў не атрымае ніхто.

### Маладзечна: сельская гаспадарка, прамысловасць, медыцына

На «Амкадор-Унікаб» возьмуць бухгалтара з заробкам ад 650 і галоўнага тэхнолага з заробкам ад 1400.

Прадпрыемству «Маладзечнажалезабетон» патрэбныя апаратчык хімводаачысткі, аддзелачнік, слесар-рамонтнік, фармоўшчык, матарыст бетоназмяшальных установак, кранаўшчык. Самы вялікі заробак – ад 700 – прапануюць матарысту.

Прыбіральшчыкі патрэбны на «Белхол» і ў яслі-сад №22. Заробкі – ад 400 і ад 375 адпаведна.

У гаспадарку ў Селеўцах возьмуць загадчыка рамонтнай майстэрні, інжынера па ахове працы, інжынера-электрыка. Заробкі ўсім – ад 700. А галоўнаму ветдоктару, які прыйдзе ў гаспадарку, прапануюць ад тысячы. Столькі ж абяцаюць аператару па штучным асемяненні жывёлы і птушкі ў гаспадарцы ў Гарадзілаве.

Маладзечанскі дзяржаўны каледж шукае сталяра, выкладчыка радыёдысцыплін з досведам працы два гады, педагога-арганізатара, інжынера-энергетыка, прыбіральшчыка, повара. Заробкі ўсім – ад 375.

Вакансіі ад ЦРБ – механік гаража, інжынер з досведам працы ў будаўніцтве, слесар-сантэхнік, электраманцёр, інжынеры па пажарнай бяспецы і па ахове працы. Найбольш атрымае механік гаража – ад 750 рублёў.

Патрэбныя і спецыялісты з медыцынскай адукацыяй – медсёстры і педыятр у Радашкавічы, доктару прапануюць ад 480, медсёстрам крыху менш.

У «Еўрагандаль» патрабуюцца прыбіральшчыкі, касіры, грузчыкі, кандытар. Заробкі – ад 450 да 1000. У «Акдзімол» – абвальшчык мяса, жылоўшчык, прадавец. Заробкі – ад 650 да 800.

На паўстаўкі возьмуць дэфектолага і педагога-псіхолага. Кожнаму прапануюць ад 375 рублёў.

Шмат вакансій для спецыялістаў будаўнічага профілю прапануе «Забудова». Самы высокі заробак – ад 800 рублёў – прапануюць зваршчыку арматурных сетак і каркасаў.

### Валожын, Мядзел: прапаноў мала

У сельскагаспадарчае прадпрыемства «Валожынскае» патрэбны загадчык пункта штучнага асемянення з заробкам ад 600 рублёў і заатэхнік-селекцыянер – ад 800.

У «Еўраторг» возьмуць кантралёра-касіра, камплектоўшчыка, грузчыка. Заробкі – ад 500 да 700. Валожынскі жылкамунгас чакае машыніста бульдозера, прыбіральшчыка, трактарыста, кіроўцу, інжынера па ахове навакольнага асяроддзя. Заробкі – 400-500 рублёў. Качагару, што прыйдзе ў ветстанцыю, прапануюць ад 450. У мясцовы філіял Мінаблгазу патрэбны інжынер-праграміст і інжынер-энергетык. Заробкі – 800 і 1000 рублёў адпаведна.

У «Мядзельаграсэрвісе» чакаюць жывёлавода. Яму прапануюць ад 375. Як і ў большасці гарадоў рэгіёна, працоўныя месцы дае «Еўраторг». Гэта касір і прадавец з заробкамі ад 600 і грузчык – ад 700.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

---

**ЛІЧБА НУМАРА**

**54%**

такая частка людзей назвала беларускую мову роднай падчас перапісу ў кастрычніку 2019 года



**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.09 | 17.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6329 | **2.5781** |
| Еўра | 3.0995 | **3.0586** |
| Злоты, 10 | 6.9541 | **6.8822** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4615 | **3.4420** |
| Грыўня, 100 | 9.4611 | **9.1813** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **9.09** | **16.09** |
| Еўра | 3.0800/3.1800 | **3.0100/3.1100** |
| Долар ЗША | 2.6000/2.6800 | **2.5400/2.6000** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **9.09** | **16.09** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,85 | **23,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,25** |
| Сасіскі, 1 кг | 8,05 | **7,60** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **4,75** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **4,90** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,90 | **17,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,55 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,50 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,50 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,75 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | **2,00** |
| Бульба, 1 кг | 1,10 | **0,80** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **0,80** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,00** |
| Морква, 1 кг | 1,20 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 2,80 | **1,60** |
| Перац, 1 кг | 4,90 | **2,20** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 6,80 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 5,20 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,10 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 6,40 | **3,50** |
| Грушы, 1 кг | 4,70 | **2,90** |
| Дыня, 1 кг | 2,20 | **2,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,70 | **1,20** |
| Ківі, 1 кг | 6,70 | **6,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,60 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 6,00 | **5,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 6,30 | **3,90** |
| Персікі, 1 кг | 5,20 | **4,20** |
| Хурма, 1 кг | – | **3,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 3,80 | **1,80** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,20 | **3,20** |

## У гаражы згарэў аўтамабіль «Аўдзі»

ВІЛЕЙКА

Пра пажар у гаражы ў вёсцы Ізбіно выратавальнікам паведамілі 8 верасня ў 16:30.

Калі работнікі РАНС прыехалі на месца, то ўбачылі, што блочны гараж гарыць знутры. У выніку агонь знішчыў аўтамабіль «Аўдзі». Яшчэ па ўсёй плошчы абгарэў дах, расказала карэспандэнту інспектар сектара ўзаемадзеяння з грамадскасцю цэнтра бяспекі жыццядзейнасці і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Дыяна Жалязняк**.

Прычыну пажару высвятляюць.

Аксана ЯРАШОНАК.

## У аварыі загінуў пешаход

ВІЛЕЙКА

Як расказаў карэспандэнту часовы выканальнік абавязкаў начальніка АДАІ Вілейкі **Генадзь Сяськоў**, аварыя са смяротным зыходам здарылася 13 верасня пасля дзевяці вечара на вуліцы Стаханаўскай, каля дома №252.

– 20-гадовы жыхар Мінска ехаў на машыне «Форд-Мандэа» па Стаханаўскай. Каля дома №252 ён наехаў на пешахода, які пераходзіў дарогу без флікера і якраз ішоў па яго палосе. Ад атрыманых траўмаў 47-гадовы мужчына памёр на месцы ДТЗ. Ён быў зарэгістраваны ў Мядзельскім раёне, – расказаў часовы выканальнік абавязкаў начальніка АДАІ.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Кіроўца заснуў за рулём і ўрэзаўся ў дрэва

МАЛАДЗЕЧНА

Як расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**, ДТЗ адбылося 12 верасня, калядзіны дня, на дарозе Ілья – Самалі – Маладзечна.

– 61-гадовы кіроўца, жыхар Маладзечна, на «Сітраэне» ехаў па аўтадарозе ў бок Маладзечна з хуткасцю прыкладна 80 кіламетраў у гадзіну. На 12 кіламетры, на закругленні дарогі, з'ехаў у правы па ходзе руху кювет і ўрэзаўся ў дрэва. У выніку аўтамабіль атрымаў механічныя пашкоджанні, – расказала Дыяна Галуза.

У аўтамабілі на пярэднім пасажырскім сядзенні была 41-гадовая дачка кіроўцы прышпіленая рамянём бяспекі. Яна закрычала бацьку ў момант з'езду з дарогі, але бацька не адрэагаваў.

Ззаду ў аўтамабілі сядзела 61-гадовая жонка. Пасля ДТЗ яна скардзілася на моцны боль у грудзях і на твары ў яе была гематома. Выклікалі «хуткую дапамогу», якая павезла жанчыну ў Маладзечанскую ЦРБ на абследаванне.

Са слоў кіроўцы, ён мяркуе, што заснуў падчас кіравання аўто.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Аўтамабіль сутыкнуўся з роварам. Пацярпеў раварыст

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося 13 верасня каля апоўначы на другім кіламетры дарогі Рускае Сяло – Краснаполле.

Сутыкнуліся аўтамабіль «Фольксваген» і ровар. У выніку здарэння 36-гадовы мясцовы жыхар-раварыст атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні. Яго забралі ў бальніцу.

За рулём машыны быў 41-гадовы вясковец з Рускага Сяла. Завялі крымінальную справу, паведамляюць у Вілейскім РАУС.

Аддзел інфармацыі.

## Прыпаркаваная машына заехала ў агароджу

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 12 верасня ў Маладзечне, на вуліцы Таміліна, расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

Па яе словах, 39-гадовая маладзечанка прыпаркавала аўтамабіль на перадачы і пайшла ў краму. Ручным тормазам не скарысталася.

**Калі яна выйшла з крамы, то ўбачыла, што на ранейшым месцы машыны няма. Дачка кіроўцы заўважыла, што аўтамабіль у нешта ўрэзаўся прыкладна за дзвесце метраў ад месца паркоўкі.**

Аказалася, машына пашкодзіла металічную агароджу. ДАІ выклікалі прахожыя.

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота dw.com.

Па словах родных, мужчына дэбашырыў не першы раз.

# Нецвярозы бацька пагражаў задушыць сына-падлетка

## Хлопец выклікаў міліцыю

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося днямі ў адным з інтэрнатаў на вуліцы Будаўнікоў. Пра інцыдэнт праваахоўнікам паведаміў сам 14-гадовы падлетак.**

Аднавіць карціну таго дня міліцыянерам дапамаглі ўдзельнікі сямейнага канфлікту і суседка, у якой ратавалася маці і сын. Вярнуўшыся дадому ў другой палове дня нецвярозым, 45-гадовы гаспадар разлаваўся, што жонка не давала грошай на бутэльку. Паміж імі завязалася слоўная сварка, у якую ўвязаўся сын. Канфлікт хутка перарос у рукапрыкладства.

Бацька адштурхнуў юнака, затым схапіў яго ў дзвярным праёме абедзвюма рукамі за шыю і пагражаў забіць першым.

У той момант хлопец успрыняў пагрозу рэальна і баяўся за сваё жыццё. Вырвацца з рук бацькі дапамагла маці, пасля чаго ім удалося выбегчы з пакоя і схавацца ў суседкі. Каб уціхамірыць дэбашыра, апошняя была вымушана даць яму дзесяць рублёў. Калі маці і сын вярнуліся дамоў, убачылі разгромленую кватэру.

Бацька зноў пачаў прад'яўляць хлопцу розныя прэтэнзіі і абражаць. Падлетак патэлефанаваў у міліцыю. На месца сямейнага скандалу ў інтэрнат прыбылі міліцыянеры. Агрэсара праваахоўнікі затрымалі і даставілі ў райаддзел. Экспертыза паказала 3,26 праміле алкаголю.

Склалі адміністрацыйны пратакол. Раней маладзечанец неаднаразова прыцягваўся да адказнасці за бытавыя канфлікты і парушэнні ПДР, у тым ліку да крымінальнай. У нецвярозым стане ён сеў за руль аўтамабіля і, не справіўшыся з кіраваннем, з'ехаў у кювет. Тады ў выніку ДТЗ пасажыр атрымаў цялесныя пашкоджанні.

Як вядома, фігурант злоўжывае спіртным. Аб сямейных дэбошах яго жонка ў міліцыю паведамляе рэдка, мяркуючы, што з-за звароту ў органы дзеці могуць апынуцца ў сацыяльна небяспечным становішчы.

Цяпер па дадзеным факце праводзіцца праверка, расказалі ў РАУС Маладзечна.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Жанчыне заціснула руку дзвярыма аўтобуса. Яе зяць выклікаў міліцыю

ВІЛЕЙКА

Пра здарэнне карэспандэнту расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**:

– 8 верасня каля шасці вечара жыхар Вілейкі патэлефанаваў у міліцыю і паведаміў, што на прыпынку, што каля дома 35 на вуліцы 17 Верасня, пры выхадзе з аўтобуса дзверы заціснулі руку яго цешчы. І аўтобус паехаў.

Па словах Мікалая Мягкова, у здарэнні разбіраліся работнікі ДАІ. Яны даведаліся, што жанчына была ў салоне аўтобуса з чатырохгадовай унучкай. Калі аўтобус спыніўся і адчыніліся дзверы, жанчына спярша высадзіла ўнучку, якую на прыпынку сустракаў бацька. А сама на некаторы час затрымалася ў салоне. У аўтобус ужо пачалі заходзіць іншыя пасажыры. Кіроўца ўбачыў у люстэрку, што ўсе людзі зайшлі, і пачаў зачыняць дзверы.

**У гэты момант жанчына пачала выходзіць з аўтобуса. Калі яна ўжо была на вуліцы, яе руку заціснула дзвярыма.**

– У жанчыны ніякіх цялесных пашкоджанняў няма. Усё скончылася добра, – падсумаваў намеснік начальніка РАУС.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Памежнікі затрымалі букеты з псіхатропаў

АШМЯНЫ
СМАРГОНЬ

Днём 6 верасня ў пункце пропуску «Каменны Лог» смаргонскія памежнікі ў аўтамабілі «Кіа», што кіраваўся на ўезд у Беларусь, знайшлі два кілаграмы раслінная рэчыва – гармал. Яно змяшчае ў сваім складзе псіхатроп «Гармін».

Машынай кіраваў непрацуючы 37-гадовы грамадзянін Расіі. Жыхар Калінінградскай вобласці растлумачыў, што не ведаў пра расліну ў багажніку свайго аўтамабіля.

Рэчыва канфіскавалі, машыну затрымалі. Па дадзеным факце пачалі праверку.

Паводле Дзяржпамежкамітэта.

## Перакуліўся грузавік з каровамі ў кузаве

СМАРГОНЬ

8 верасня ў 16:30 у Навагрудскім раёне на аўтадарозе Баранавічы – Навагрудак – Іўе перакуліўся «ГАЗ».

51-гадовы жыхар Смаргоні не справіўся з кіраваннем і з'ехаў у левы па ходу руху кювет, дзе перакуліўся. У выніку ДТЗ мужчыну з пераломам лапаткі і рэбраў даставілі для аказання медыцынскай дапамогі ў раённую бальніцу.

Пасля аказання дапамогі медыкаў ад далейшай шпіталізацыі мужчына адмовіўся.

Па факце ДТЗ праводзіцца праверка.

Паводле ДАІ УУС Гродна.

# «Я ежу купляў». Расказваем пра затрыманне ў краме «Суседзі»

**Аляксей Крымоўскі – той самы мужчына, якога затрымала міліцыя 13 верасня проста на касе, калі малады чалавек купляў бургер.**

Суд па справе Крымоўскага прайшоў 14 верасня. Пасяджэнне вяла суддзя **Інэса Южык**. На 24-гадовага мужчыну суд пастанавіў ускласці адміністрацыйнае спагнанне па частцы 1 артыкула 23.34 «Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў» у памеры 20 базавых велічынь. Такую ж суму штрафу з яго спаганяе суд і па артыкуле 23.4 «Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню або патрабаванню службовай асобы пры выкананні службовых паўнамоцтваў». Агульная сума штрафу склала 40 базавых велічынь, 1080 рублёў.

Суд высветліў, што 13 верасня мужчына «прымаў актыўны ўдзел у арганізаваным масавым руху грамадзян, шэсці па пешаходных частках вуліцы Вялікі Гасцінец, ад дома №102 да дома №54, Маладзечна з мэтай публічнага выказвання незадавальненнем дзеючай уладай і парадкам правядзення выбараў без адпаведнага дазволу Маладзечанскага райвыканкама».

Паводле пастановы суда, Крымоўскага затрымалі каля 16:27. Пры затрыманні ён «адмаўляўся выконваць неаднаразовае законнае і відавочнае патрабаванне супрацоўніка міліцыі Міцкевіча прайсці ў службовы аўтамабіль, каб даставіць у Маладзечанскі РАУС, упіраўся, размахваў рукамі, хапаўся за форменнае абмундзіраванне».

Крымоўскі віну на судзе не прызнаў.

### «Супрацілляцца не збіраўся»

Аляксей пасля вызвалення расказаў журналістам «Рэгіянальнай газеты», як адбывалася затрыманне і што было пасля яго:

– Я далучыўся да калоны, удзельнічаў у шэсці, гэтага не адмаўляю.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Аляксей Крымоўскі падчас затрымання.

Спачатку затрыманні былі каля крамы «Гастраном», я гэта бачыў. Пасля шэсце вярнулася да Лядовага палаца, я пайшоў у гандлёвы цэнтр, зайшоў у «Суседзі», купіў бургер. Міліцыянеры ішлі не за мной, а за дзяўчатамі са сцягам. Заўважылі мяне, сказалі: «Здаецца, гэта ён». Пачакалі, пакуль аплачу ежу, і затрымалі. Супраціўляцца не збіраўся, але мяне схапілі і пацягнулі. Я згубіў раўнавагу і слізгаў па плітцы, казаў, што купляў ежу, нічога ж кепскага не зрабіў.

Пакуль валаклі да машыны, адзін з іх сказаў, што мяне паб'юць. Адказаў, біце тут жа. Яны былі ў балаклавах, без апазнавальных знакаў. Хацелі мяне засунуць ва УАЗік. Я паклаў бургер і стаяў, спрабаваў пачаць дыялог. Але мяне кіданулі ўнутр, хаця я быў у шоку і супраціўляўся. Унутры машыны адзін з іх пагазаў мне непрыстойны жэст.

У міліцыі завялі спачатку ў адзін пакой, дзе людзі ў балаклавах патрабавалі разблакаваць тэлефон. У міліцыі ніхто не біў. Пасля павялі на допыт. Спачатку трапіўся следчы, які ўсё спакойна запісаў з маіх слоў так, як я і казаў.

Другі пратакол афармляў супрацоўнік, які так і не зняў балаклаву.

Пасадзілі ў «стакан». Пасля павялі ў ізалятар часовага ўтрымання. Камера, відаць, што старая, але прыбраная. На наступны дзень павезлі ў суд. Там не прызнаў, што супраціўляўся. Лічу, што ўсё рабіў у межах чалавечнасці.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

# «Наша праца – гэта не толькі дровы і дошкі»

## Перад прафесійным святам работнікі Маладзечанскага лясгаса расказалі пра сваю работу

**Тут гадуюць пчол і збіраюць мёд, даглядаюць рэдкія расліны і жывёл, забяспечваюць гаспадароў дровамі і дэкаратыўнымі дрэвамі, ладзяць масавыя мерапрыемствы на свежым паветры, выхоўваюць любоў да прыроды. Праца работнікаў лесу – гэта не толькі дошкі, перакананыя ў Маладзечанскім лясгасе.**

– Наш лясгас, у параўнанні з іншымі ў Беларусі, невялікі – пяць лясніцтваў, 270 супрацоўнікаў. Але функцый у нас шмат, – кажа галоўны ляснічы **Андрэй Шыбека**.

Адна з самых важных – вырошчванне лесу ад збору насення да высечкі. Пакуль дрэвы растуць, работнікі рэалізуюць іншыя функцыі – абараняюць лес ад хвароб, разнастайных шкоднікаў, браканьераў. А прырода ўсё падкідвае і падкідвае леснікам новыя выпрабаванні – то караед, то буралом. Нядаўняя і вельмі сур'ёзная навала – баршчэўнік і сумнік.

– Гэтыя расліны дадалі нам шмат працы, – кажа намеснік дырэктара па ідэалагічнай рабоце **Віталь Дземеш**. – Яны прыйшлі ў лес ад безгаспадарлівасці чалавека і засяваюць лясныя паляны і ягаднікі так, што ў лес часам не зайсці. Змагаемся з гэтымі раслінамі і хімічнымі, і механічнымі спосабамі.

Займаюцца ў лясгасе і перапрацоўкай драўніны. Нешта ідзе на экспарт, нешта – жыхарам раёна. Тут разумеюць, што ад работы Маладзечанскага лясгаса залежыць эканоміка раёна і рэспублікі, а значыць, праца і прыбытак людзей.

Яшчэ адзін кірунак – паляўнічая гаспадарка. Работнікі падтрымліваюць аптымальную колькасць жывёл, пры патрэбе лечаць і падкормліваюць іх. Аматары палявання прыязджаюць сюды, каб здабываць вадаплаўную і балотную птушку, капытных жывёл, а таксама ваўкоў і ліс.

Лясгас мае домік паляўнічага, дзе можна ладзіць розныя масавыя мерапрыемствы – ад карпаратываў да семінараў. Зімой тут традыцыйна праводзяць Вадохрышча, а калі ёсць снег, то і лыжныя спаборніцтвы з чаем і кашай.

Зоны адпачынку на ўзлесках уздоўж дарог – гэта таксама заслуга работнікаў лясгаса. Альтанкі і лавачкі папулярныя ў тых, хто любіць адпачыць у лесе з сябрамі або сям'ёй. Па словах работнікаў, лясны адпачынак сёлета карыстаўся асаблівым попытам, бо большасць людзей нікуды не выязджала з-за пандэміі.

А яшчэ лясгас мае старонкі ў сацсетках. Праз іх дзеляцца навінамі, стараюцца выхаваць у людзей любоў і беражлівыя адносіны да прыроды.

Адзін з асноўных прынцыпаў працы – знайсці кампраміс паміж эканомікай і экалогіяй. Таму вось ужо некалькі год лясную гаспадарку тут вядуць у адпаведнасці з экалагічнымі стандартамі.



Фота забяспечанае Маладзечанскім лясгасам.

У Гарадоцкім лясніцтве.

Добраахвотна прайшлі міжнародную сістэму сертыфікацыі FSC, якая прымяняецца па ўсім свеце для арганізацый, што займаюцца лясной гаспадаркай. Атрымалі міжнародны сертыфікат, які пацвердзіў, што лясгас на Маладзечаншчыне працуе экалагічна правільна.

Цяпер штогод сюды прыязджаюць прадстаўнікі ад еўрапейскай фірмы, ездзяць па лясах, сельсаветах, гутараць з мясцовымі жыхарамі. Звяртаюць увагу, каб у лясах была біялагічная разнастайнасць, каб падчас высечак ствараліся ўмовы для жыцця жывёл і раслін, каб былі старыя дрэвы з дупламі, сухастоі, корм.

Сёлета на Міншчыне ладзілі конкурс на добраўпарадкаванне лясніцтваў. Вынікі аб'явілі за некалькі дзён да прафесійнага свята работнікаў лясной гаспадаркі. Гарадоцкае лясніцтва пад кіраўніцтвам **Юрыя Сіцько** заняла другое месца.

У Маладзечанскім лясгасе лічаць, што іх прафесійнае свята – гэта свята ўсіх жыхароў Маладзечаншчыны, якія карыстаюцца ляснымі дарункамі. Лясгас віншуе ўсіх са святам і нагадвае берагчы лес.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



### Цікавыя факты ад Маладзечанскага лясгаса

- Рэдкія лясныя жывёлы на Маладзечаншчыне – барсук і рысь. Часам з Вілейшчыны прыходзяць мядзведзь.
- Рэдкія расліны – прастрэл, або сон-трава; шпажнік, або лясная архідэя; баранец.
- Пасля Другой сусветнай вайны высеклі амаль усе лясы Маладзечаншчыны. Патрэбны былі матэрыял для аднаўлення Мінска.
- Каб хваёвы лес цалкам выспеў, трэба 90 год.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае




* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дарагa! Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Т. (8-033) 6612163.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дача 0,07 га ў в. Алянец Смаргонскага раёна, лес, р. Вілія. Т. (8-029) 6444731.

• Дом з усімі выгодамі ў Вілейцы. Т. (8-029) 7667446.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у аг Беразінскае, плошча 114 кв.м, участак 12 сотак, з усімі выгодамі, надворнымі пабудовамі, садам. Т. (8-029) 8597976.*

• Зруб. Т. (8-044) 4781305.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселле, юбілей, карпаратыў. Музычнае афармленне. Вядучы. ІП Язневіч Л.М. УНП 692245902 Т. (8-044) 5945440.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Івека да 3 т. Маладзечна, РБ. ІП Вайшнаровіч А. З. УНП 692248968 Т. (8-029) 7775442.*



### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Абітурыентам і школьнікам. Хімія. Біялогія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Наносім фота на кубак, майку. Смаргонь, вул. Танкістаў,8 «НгС». ІП Улан Р.В. УНП 690288442 Т.(8-029) 6631595.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ.** АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЕЎ. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Узворванне. Культывацыя. Выдаленне бульбоўніку. Уборка бульбы КТН-2В. ІП Каркоцкі С.В. УНП 692246779 Т. (8-029) 7682028.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова, авечкі. Т. (8-029) 1707186.*

• Карова, 3 гады, чорна-пярэстая. Т. МТС (8-029) 2611253.

• Распродаж парасят кармалаў. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

**Іншае**

• Балон газавы. Т. (8-044) 4944849, (8-0176) 532172.

• Дровы, дошкі. Т. (8-029) 6106061.*

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Пшаніца, жыта, бульба буйная, дробная. Т. (8-033) 6020455, (8-044) 4930237.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8025) 7894666.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі на пастаянную работу патрабуюцца швачкі (брыгада). ТАА «МісСью» УНП 691888958 Т. (8-029) 3482283.*

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю працу па рамонце драўляных дамоў (замена старых бярвенняў), рамонт падмуркаў, дахаў. Т. (8-029) 8745410.*

# За ўдзел у пратэстным шэсці асудзілі ветэрана міліцыі

**Ігара Асановіча прыцягнулі да адказнасці па артыкуле 23.34 «Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў».**


Фота Настассі УТКІНАЙ.

На судовым пасяджэнні па справе Асановіча.

55-гадовы былы міліцыянер цяпер працуе вартаўніком у вайсковай часці ў Красным, а жыве ў Маладзечне.

Пасяджэнне правяла суддзя **Іна Каханоўская** 15 верасня.

На пачатку пасяджэння Асановіч хадайнічаў аб тым, каб суд дазволіў азнаёміцца з матэрыяламі справы, хадайніцтва задаволілі. Пасля перапынку Асановіч заўважыў, што пратакол афармлены з памылкай. Месцам складання пратакола пазначаны горад Маладзечна, хаця міліцыянеры апытвалі яго па месцы працы ў Красным.

На судзе Асановіч заявіў, што не ўдзельнічаў у шэсці, але ведае, што яно было, таму што сам мужчына жыве ў доме, каля якога ўдзельнікі праходзілі. Таксама патлумачыў, што на відэа зафіксавалі не яго, а чалавека, падобнага да яго. Па меркаванні Асановіча, супрацоўнікі міліцыі яго агаворвалі з-за таго, што раней ён апазнаў на відэазапісе са збіццём людзей ва ўнутраным двары ку РАУС двух людзей з кіраўніцтва міліцыі. «Я ўказваў іх прозвішчы і асуджаў дзеянні», – заявіў Асановіч.

На пытанне, якім чынам ён мог апазнаць міліцыянераў, мужчына патлумачыў:

– Я ветэран, пенсіянер Міністэрства ўнутраных спраў, да 2007 года працаваў у Маладзечанскім РАУС. Ад 2010 года атрымліваю пенсію за выслугу гадоў.

Асановіч выказаў меркаванне, што яго агаварылі па распараджэнні кіраўніцтва. На пытанне суда, на чым грунтуецца меркаванне, адказаў «на асабістым досведзе».

У якасці сведкаў былі трое міліцыянераў Маладзечанскага РАУС – **Жалевіч**, **Кушаль** і **Мурза**. Жалевіч здымаў шэсце на камеру, Кушаль вёў аўтамабіль. Яны сказалі, што заўважалі Асановіча ў натоўпе, і той паказваў непрыстойны жэст.

Жалевіч сцвярджаў, што чалавек, падобны да Асановіча, выказваўся ў бок міліцыянераў. Ён зразумеў гэта па руху вуснаў. На відэа, пададзенае міліцыяй, відаць, што меркаваны Асановіч быў у медыцынскай масцы.

Кушаль адзначыў, што бачыў чалавека, падобнага да Асановіча, толькі на пешаходным пераходзе скрыжавання Прытыцкага і Грамадоўскай.

Мурза пасля ў аддзеле праглядаў відэа. Хтосьці пазнаў у чалавеку на відэа Асановіча. Тады зверылі чалавека на відэа з пашпартнай базай і вырашылі, што гэта ён.

## Пастанова суда

Суд пастанавіў, што 30 жніўня днём Асановіч прымаў удзел у шэсці і публічна выказваў незадаволенасць дзеючай уладай і парадкам правядзення выбараў.

На судзе Асановіч віну не прызнаў. Суд пастанавіў накласці на Асановіча адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе штрафу ў памеры 25 базавых велічынь, што складае 675 рублёў.

Перад судовым пасяджэннем Ігар Асановіч паказаў журналістам пасведчанне аб узнагароджанні памятным нагрудным знакам «100 год Крымінальнаму вышуку Мінскай вобласці Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь», зацверджанае загадам ад 7 жніўня 2018 года.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Ганна Верацейка і Уладзімір Крот пасля сустрэчы з дэпутатам Алегам Семенчуком.

# Сустрэча з дэпутатам у Маладзечне завяршылася дзвюма гутаркамі з міліцыяй

**9 верасня шасцёра выбаршчыкаў з выбарчай акругі №73 сустрэліся з дэпутатам Алегам Семенчуком. На наступны дзень да адной з жанчын, якая была на сустрэчы, Ганны Верацейкі, прыехалі супрацоўнікі сілавых структур.**

### Размаўлялі пра сустрэчу з дэпутатам

10 верасня **Аляксею Верацейку**, мужу Ганны, патэлефанаваў на мабільны тэлефон чалавек, які прадставіўся супрацоўнікам Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй (ГУБАЗіК). Гэты чалавек прапанаваў сустрэцца, а пасля прыехаў да Аляксея на работу.

> **– Прыехалі два чалавекі на звычайным аўто, у цывільнай вопратцы, без масак. Адзін з іх паказаў пасведчанне супрацоўніка ГУБАЗіК. Прапанаваў правесці гутарку.**

Размова ішла пра несанкцыяніраваныя масавыя мерапрыемствы. У Аляксея спрабавалі даведацца, ці ўдзельнічае ён у такіх мерапрыемствах, ці збіваў супрацоўнікаў сілавых структур, хто з'яўляецца ініцыятарам і завадатарам.

Пасля гутаркі з Аляксеем супрацоўнікі захацелі паразмаўляць і з яго жонкай. Яны паехалі да Ганны на работу.

– Прозвішча аднаго супрацоўніка, які з ГУБАЗіК, было Дубовік. Іншы супрацоўнік спачатку адмаўляўся паказваць пасведчанне, але пасля паказаў, я ўжо не глядзела.

У Ганны таксама пыталіся пра акцыі, на якія каналы ў «Тэлеграме» яна падпісаная. Яна сказала, што гатовая паказаць мабільны тэлефон, аднак сілавікі адмовіліся яго глядзець.

Супрацоўніка, які адмаўляўся паказваць пасведчанне, цікавіла мэта сустрэчы з дэпутатам Семенчуком. Ганна распавяла, што ад дэпутата спрабавала даведацца, чаму па беларускіх гарадах ходзяць незразумелыя людзі ў цывільнай вопратцы, балаклавах, збіваюць людзей. Гэта ж Ганна распавядала на сустрэчы з Семенчуком.

> **По словах Ганны, гэты ж супрацоўнік настойліва ўзгадваў пра сына жанчыны, які вучыцца на бюджэце ў мінскім каледжы і жыве ў інтэрнаце.**

Ганне далі падпісаць дакумент, што яна пазнаёмленая з законам аб супрацьдзеянні экстрэмізму і ведае, якая адказнасць прадугледжаная за дзеянні, накіраваныя на змену канстытуцыйнага ладу і захоп улады.

### «Сказалі, што я арганізатар акцый»

14 верасня супрацоўнік, які прадставіўся **Максімам Пятровічам**, патэлефанаваў сям'і Верацейкаў.

– Сказаў, што трэба з намі сустрэцца, а таксама з нашым дзіцем.

Сыну Аляксея і Ганны 16 гадоў, ён вучыцца ў Мінску і жыве там у інтэрнаце, таму фізічна не змог прыехаць разам з бацькамі ў будны дзень у Маладзечанскі РАУС.

У аддзяленні маладзечанскай міліцыі Ганне сказалі, што нейкія людзі распавялі супрацоўнікам органаў, што яна з'яўляецца арганізатарам акцый. І ў гэтых акцыях нібыта ўдзельнічаў яе непаўналетні сын.

– Проста вельмі цікава атрымліваецца. Спачатку з ГУБАЗіК, а потым сюды пазвалі.

Супрацоўнік Маладзечанскага РАУС сказаў, што прыйшла нейкая паперка з Мінска і ў ёй сцвярджалася, што менавіта Ганна Верацейка з'яўляецца арганізатарам акцый.

> **Ганна выкарыстала права, якое гарантаванае ёй артыкулам 27 Канстытуцыі Беларусі. Яна адмовілася сведчыць супраць сябе і сваякоў.**

Мужа Ганны ў аддзяленні міліцыі не апытвалі.

У міліцыі Ганне прапанавалі падпісаць паперку, у якой паведамлялася пра адказнасць за ўдзел у масавых несанкцыяніраваных мерапрыемствах.

**Аддзел інфармацыі.**



# тэлетыдзень

**21-27 верасня**

Перадрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Дарагія таварышы!»




Фота m.russia.tv.

**Тыдзень таму на Венецыянскім кінафестывалі паказалі новы фільм Андрэя Канчалоўскага. Гісторыя карціны пра падзеі, якія знаходзіліся пад грыфам «сакрэтна» некалькі дзесяцігоддзяў у СССР.**

## Расстрэл у Новачаркаску

У 1962 годзе ў расійскім Новачаркаску рабочыя абвясцілі страйк і выйшлі на дэманстрацыю. Яны былі незадаволеныя павышэннем цэн і паніжэннем заробкаў. Ваенныя стралялі па натоўпе баявымі патронамі. У выніку гэтага загінулі 26 чалавек, сто пацярпелі, а яшчэ семярых чалавек назвалі завадатарамі і прысудзілі да расстрэлу.

Выступленне рабочых было задушана сіламі міліцыі, войска і КГБ СССР, а ўсю інфармацыю аб новачаркаскіх падзеях, у тым ліку аб колькасці загінулых і параненых, засакрэцілі.

Па афіцыйных часткова рассакрэчаных дадзеных у канцы 1980-х гадоў, пры разгоне дэманстрацыі забілі 24 чалавек, яшчэ 70 чалавек атрымалі цяжкія агнястрэльныя раненні. Пазней увечары 2 чэрвеня забілі яшчэ двух чалавек.

**Семярым з завадатараў страйку вынеслі смяротныя прысуды, іх расстралялі. А яшчэ 103 чалавекі атрымалі тэрміны ад 2 да 15 гадоў пазбаўлення волі.**

У 1996 годзе ўсіх асуджаных рэабілітавалі. У 1990-х гадах новыя ўлады назвалі вінаватых, на іх думку, у расстрэле — членаў савецкага партыйнага кіраўніцтва, іх пакаранне не адбылося па прычыне смерці апошніх.

## Што паказвае Канчалоўскі

Галоўная гераіня фільма ў выкананні **Юліі Высоцкай** – партыйная работніца па імені Людміла, якая губляе падчас гэтых падзей сваю дачку. Падчас забастоўкі рабочых на «Новачаркаскім электравозабудаўнічым заводзе» Людміла становіцца сведкам расстрэлу рабочай дэманстрацыі. Загад дала Урадавая камісія, якая спрабавала схаваць факт масавай забастоўкі ў СССР. Падчас расстрэлу на плошчы знікае дачка Людмілы. Гэта зламала светапогляд Людмілы, якая была перакананая камуністка.

**Нягледзячы на блакаду горада, масавыя арышты і спробы савецкіх уладаў схаваць тое, што адбылося, яна паўсюль шукае дачку.**

## Акцёрскі склад фільма

Юлія Высоцкая – Людміла.

Андрэй Гусеў – Віктар.

Юлія Бурава – Светка.

Анатолій Пятрунін – генерал МУС.

Аляксандр Маскэлайн – прафесар Овадаў.

Уладзіслаў Камароў – Цімафей Логінаў, першы сакратар Новачаркаскага гаркама КПСС.

Дзмітрый Касцян – Аляксандр Басоў, першы сакратар Растоўскага абкама КПСС.

Вячаслаў Пігараў – Барыс Курачкін, дырэктар завода.

Арцём Крысін – Барыс Сямашкін.

Ксенія Камарова – Тамарка.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 21 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 18.00, 21.05, 0.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Далматинец».
**7.30, 15.55, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.25, 19.50** Т/с **«ОДНАЖДЫ В РОСТОВЕ».**
**10.00** «Удачные советы».
**10.05** Смотрим всей семьей «Гарри Поттер и принц полукровка».
**12.45, 18.05** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.00** Т/с **«ОХОТНИКИ ЗА БРИЛЛИАНТАМИ».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.15** Х/ф **«ДЕЖА ВЮ».**
**19.15** «Суперлото».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«БЕГУЩИЙ ПО ЛЕЗВИЮ 2049».**
**23.55** Т/с **«БУЛЬВАРНЫЕ УЖАСЫ».**

**ВТОРНИК, 22 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 17.55, 21.10, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.40** «Мульт-парад». «Далматинец».
**7.30, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**9.00, 19.15** Т/с **«ОДНАЖДЫ В РОСТОВЕ».**
**9.55** «Архив СБ ТВ».
**10.15** Х/ф **«БЕГУЩИЙ ПО ЛЕЗВИЮ 2049».**
**13.00, 18.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.10** Т/с **«ОХОТНИКИ ЗА БРИЛЛИАНТАМИ».**
**15.40** Погода+ Эрана.
**16.00** Кулинарная программа «Готовь как шеф!».
**16.20** Х/ф **«ИВАН ВАСИЛЬЕВИЧ МЕНЯЕТ ПРОФЕССИЮ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«СЕСТРА».**
**22.50** Х/ф **«САМОУЧКА».**
**0.35** Т/с **«БУЛЬВАРНЫЕ УЖАСЫ».**

**СРЕДА, 23 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.35, 21.10, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Далматинец».
**7.30, 15.40, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.20, 19.15** Т/с **«ОДНАЖДЫ В РОСТОВЕ».**
**10.00** «Готовь как шеф».
**10.20** Мультфильмы.
**10.35** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**12.50** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.05** Т/с **«СУВЕНИР ИЗ ОДЕССЫ».**
**15.50** «Мульт-парад»Далматинец».
**16.15** Х/ф **«САМОУЧКА».**
**18.05** «Погода».
**18.10** Т/с **«БЛАГИЕ ЗНАМЕНИЯ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** «Премьера на восьмом» Трэвел-шоу «Семь чудес». Эта программа изменит представление многих о своей Родине. Отправляясь в экспедицию, ведущие «7 чудес» открывают для себя и для зрителя малоизвестные и «хорошо забытые» достопримечательности Беларуси. Он — восторженный романтик и находит чудеса даже там, где не каждый разглядит что-либо, достойное внимания. Она — скептик, которого можно переубедить...
**21.40** Х/ф **«МАРАФОН «24 ЧАСА ЛЕ-МАНА».**
**0.15** Т/с **«БУЛЬВАРНЫЕ УЖАСЫ».**

**ЧЕТВЕРГ, 24 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.30, 21.10, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Далматинец».
**7.30, 15.35, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«ОДНАЖДЫ В РОСТОВЕ».**
**10.00** «Премьера на восьмом» Трэвел-шоу «Семь чудес».
**10.30** Х/ф **«МАРАФОН «24 ЧАСА ЛЕ-МАНА».**
**13.00, 18.10** Т/с **«БЛАГИЕ ЗНАМЕНИЯ».**
**14.00** Т/с **«СУВЕНИР ИЗ ОДЕССЫ».**
**15.40** «Мульт-парад». «Далматинец».
**16.20** Х/ф **«СЕСТРЕНКА».**
**17.55** «Фешн is my профешн».
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ГРАНИЦА ЗЛА».**
**0.15** Т/с **«БУЛЬВАРНЫЕ УЖАСЫ».**

**ПЯТНИЦА, 25 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 21.10, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Далматинец».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.20, 19.15** Т/с **«ОДНАЖДЫ В РОСТОВЕ».**
**9.50** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.15** Х/ф **«ГРАНИЦЫ ЗЛА».**
**13.15, 18.10** Т/с **«БЛАГИЕ ЗНАМЕНИЯ».**
**14.15** Т/с **«СУВЕНИР ИЗ ОДЕССЫ».**
**16.00** «Мульт-парад»Далматинец».
**16.30** Х/ф **«В ПОГОНЕ ЗА ВЕТРОМ».**
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«НА ЗАРЕ СПРАВЕДЛИВОСТИ».**
**0.15** Т/с **«БУЛЬВАРНЫЕ УЖАСЫ».**

**СУББОТА, 26 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 14.10, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «История игрушек».
**8.45** «Приколы 13-й школы».
**8.50** Х/ф **«ПОКРОВСКИЕ ВОРОТА».**
**11.10** Х/ф **«НА ЗАРЕ СПРАВЕДЛИВОСТИ».**
**14.15** Смотрим всей семьей «Гарри Поттер. Дары смерти».
**16.40** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**18.35, 1.00** «Погода».
**18.40** «Премьера на восьмом» Трэвел-шоу «Семь чудес».
**19.10** Х/ф **«СОНИК В КИНО».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ДОРОЖНЫЙ ПАТРУЛЬ».**
**23.30** Х/ф **«ЛАВЛЭЙС».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 27 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 12.55, 16.40, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Иван царевич и серый волк».
**8.25** «Приколы 13-й школы».
**8.30** «Готовь как шеф».
**9.00** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙТЕ, Я ВАША ТЕТЯ».**
**10.40** Х/ф **«ВО ВРЕМЯ ГРОЗЫ».**
**13.00** «Смотрим всей семьей» Мультфильм «Иван царевич и серый волк».
**14.30** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**16.45** «Детектив на экране».
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.00, 1.30** «Погода».
**19.05** Х/ф **«НЕВЕСТА И ПРЕДРАССУДКИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ШЕСТЕРО ВНЕ ЗАКОНА».**
**23.20** «Герои комиксов на экране» Триллер «Спасти мир».

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 21 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**8.10** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**10.35** Х/ф **«ВОЛК И ОВЦЫ: Б-Е-Е-ЕЗУМНОЕ ПРЕВРАЩЕНИЕ».**
**13.00** Х/ф **«11ДРУЗЕЙ ОУШЕНА».**
**15.00** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ТУШЕНКА».**
**17.40** Сотрудничество: Молодечно-Франция.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.45** Следопыт.
**20.15** Х/ф **«БАБЛО».**
**22.15** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 22 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.40, 7.55, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 19.15** Реликвия: сохраненные ценности.
**7.40, 19.45** Следопыт.
**8.15** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**13.00** Х/ф **«АЛЕША ПОПОВИЧ И ТУГАРИН ЗМЕЙ».**
**15.10** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**16.30** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**20.15** Х/ф **«ВСЁ И СРАЗУ».**
**22.15** Мажорный лад.

**СРЕДА, 23 СЕНТЯБРЯ**

**6.30, 7.25** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 17.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Все обо всем.
**8.15** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**9.40** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**11.40** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**13.45** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**15.35** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**16.55** Х/ф **«30 СВИДАНИЙ».**
**19.15** Всё обо всём.
**19.30** Протокол.
**19.45** Следопыт.
**20.15** Фрагменты истории.
**20.20** Театральная гостиная.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 24 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.15, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Театральная гостиная.
**7.35** Протокол.
**8.15** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**10.00** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**13.00** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**14.50** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**16.10** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**19.15** На вячоркі да Фядоркі.
**19.45** А знаете ли вы?
**20.20** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**22.15** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 25 СЕНТЯБРЯ**

**6.30, 7.25** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 22.15** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**8.15** На вячоркі да Фядоркі.
**10.00** Х/ф **«НЕВАЛЯШКИ».**
**11.55** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**13.10** Х/ф **«ВАССАБИ».**
**14.40** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**19.15** Волшебная книга МЧС.
**19.25** Будьте здоровы.
**19.40** Гость студии.
**20.15** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**22.25** Мажорный лад.

**СУББОТА, 26 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15** Фрагменты истории.
**8.20** Протокол.
**8.30** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**10.30** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**13.00** Х/ф **«30 СВИДАНИЙ».**
**14.50** Х/ф **«ЗАМУЖ НА 2 ДНЯ».**
**16.40** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**19.20** Реликвия: сохраненные ценности.
**20.20** Следопыт.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 27 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙ ПАПА, НОВЫЙ ГОД!».**
**8.00** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**9.40** Х/ф **«ВОЛК И ОВЦЫ: Б-Е-Е-ЕЗУМНОЕ ПРЕВРАЩЕНИЕ».**
**11.05** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**12.20** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**13.50** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ТУШЕНКА».**
**15.30** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**17.00** Х/ф **«АМЕЛИ».**
**19.00** Х/ф **«ВАССАБИ».**
**20.30** Х/ф **«НУ, ЗДРАВСТВУЙ, ОКСАНА СОКОЛОВА!».**
**21.00** Х/ф **«ИДЕАЛЬ».**

## Беларусь 1

**6.00** Слово Митрополита Вениамина на праздник Воздвижения Креста Господня.

**6.10** Х/ф **«ТАМ, ГДЕ НАС НЕТ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.40** Зона Х. Итоги недели.

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«СОНАТА ДЛЯ ГОРНИЧНОЙ».**

**14.30** Маршрут построен.

**15.15** Х/ф **«1418 ДНЕЙ. ИСТОРИЯ ПОБЕДЫ».**

**15.55** Один день.

**16.25, 19.10** Х/ф **«РАСПЛАТА ЗА СЧАСТЬЕ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«ХРАНИ ТЕБЯ, ЛЮБОВЬ МОЯ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.45** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.05, 19.40** Телебарометр.

**9.10** «Супержена». Реалити-шоу.

**10.05** «До свидания». Реалити-шоу.

**10.50** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.

**11.50** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.

**12.45** Приключенческая фантастика «Ведьмина гора».

**14.25** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.40** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.30** Х/ф **«ДЕЛО ХРАБРЫХ».**

**20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Фэнтези «Война Богов: Бессмертные».

**23.10** «Третий лишний». Реалити-шоу. [СТ].

**0.15** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.20, 20.20** Навіны культуры.

**8.20, 13.40** Гэты дзень.

**8.25** «Размовы пра духоўнае».

**8.40** «Чалавек ніадкуль». Мастацкі фільм СТ.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Пупы.

**11.00** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Знікненне сведкі». Мастацкі фільм.

**13.45** Эдвард Грыг. «Пэр Гюнт». Прэм'ера балета Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.

**15.25** «Архітэктура Беларусі» СТ.

**15.40** «Сляды на вадзе». Мастацкі фільм.

**17.20** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**17.45** «Справа Румянцава». Мастацкі фільм.

**19.25** «Кадры жыцця». Палітык, пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Чаргінец.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Пётр Лешчанка. Усё, што было…» Мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«СОЛОМЕННАЯ ШЛЯПКА».**

**12.05** «Видели видео?».

**12.55** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**14.05, 23.45** Х/ф **«СОЛНЦЕВОРОТ».**

**16.20** Большое гала-представление к 100-летию Советского цирка.

**18.15** «Три аккорда». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Клуб Весёлых и Находчивых». Высшая лига.

**23.25** ОНТ представляет: «Спортклуб».

## СТВ

**6.35, 0.05** «Секретные территории».

**8.20, 11.00, 20.50** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловать».

**10.30** «Большой город».

**11.30, 13.40, 16.40** Т/с **«БАЛЛАДА О БОМБЕРЕ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.30** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.

**7.15** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ, ИЛИ ПОСТОРОННИМ ВХОД ВОСПРЕЩЕН».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви». Сергей Бондарчук.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новыости.

**10.10, 16.15** Т/с **«ОТРЫВ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**19.30** Т/с **«ПАПА НАПРОКАТ».**

**1.00** Х/ф **«НОВЫЕ АМАЗОНКИ».**

**2.40** Т/с **«ЖЕНЩИНА В БЕДЕ – 1».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.45** «50 рецептов первого».

**7.20** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.50** «Чудо техники».

**11.35** «Дачный ответ».

**12.35** «НашПотребНадзор».

**13.25** «Поедем, поедим!».

**14.10** Х/ф **«СТАЯ».**

**16.20** За гранью.

**16.40** «Следствие вели…».

**18.05** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** «Звезды сошлись».

**21.25** Ты не поверишь!

**22.15** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«МАЛЬЧИК МОЙ».**

**10.35, 11.20** Х/ф **«НЕДОТРОГА».**

**11.00** ВЕСТИ.

**14.30** ПРЕМЬЕРА. Праздничный концерт.

**16.30** Х/ф **«ЧИСТАЯ ПСИХОЛОГИЯ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.25** Х/ф **«ВАРЕНЬКА».**

**23.00** «В людях».

**23.30** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.10** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Капитан Крюк. **8.40** Волшебная страна. **10.25** Новый человек-паук. **12.50** Новый Человек-паук: Высокое напряжение. **15.20** Питер Пэн. **17.20** Маленький Манхэттен. **19.00** Лучше не бывает. **21.30** Умница Уилл Хантинг. **23.45, 5.00** Талантливый мистер Рипли. **2.10** Двойник. **3.30** Добро пожаловать в Zомбилэнд.

### TV1000 ACTION

**7.05** Большой куш. **8.50** Фантом. **10.15** Падение Олимпа. **12.15** Падение Лондона. **13.55** Штурм Белого дома. **16.10** Закатать в асфальт. **19.00** Отель «Артемида». **20.35** Клуб анонимных киллеров. **22.15, 5.10** Галвестон. **23.50** Страховщик. **1.45** Ничего себе поездочка. **3.15** Ворон.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.30** Подземелье ведьм. **9.10** Русалка. Озеро мертвых. **10.45** Невеста. **12.25** Пиковая дама: Зазеркалье. **13.55** Одной левой. **15.25** День дурака. **17.05** День радио. **19.00** О чём говорят мужчины. **20.40** О чём ещё говорят мужчины. **22.30** День выборов 2. **0.20** Мне не больно. **2.05** Коллектор. **3.20** Граница. Таёжный роман.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **7.30** «Рисуем сказки». **7.45** «Новый день». **8.15** Х/ф **«БЕТХОВЕН 2». 10.00** Х/ф **«ТВАРИ БЕРИНГОВА МОРЯ». 12.00, 23.00** Х/ф **«ЗОЛОТО ФЛИННА». 14.00** Х/ф **«ВОДНЫЙ МИР». 16.30** Х/ф **«МИР ЮРСКОГО ПЕРИОДА». 19.00** Х/ф **«ДРОЖЬ ЗЕМЛИ: КРОВНОЕ РОДСТВО». 21.00** Х/ф **«ДРОЖЬ ЗЕМЛИ: ХОЛОДНЫЙ ДЕНЬ В АДУ». 1.00** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ». 2.15, 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ЛАСТОЧКИНО ГНЕЗДО». 13.00, 21.00** Т/с **«УСЛОВИЯ КОНТРАКТА 2». 14.00, 22.00** Т/с **«ПОД БОЛЬШОЙ МЕДВЕДИЦЕЙ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«МАМА – ДЕТЕКТИВ». 3.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2». 5.00** Т/с **«ПРОСТИТЬ НЕЛЬЗЯ РАССТАТЬСЯ». 6.00** Т/с **«МОЙ ГЕНЕРАЛ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.10** Х/ф **«ЁЛКИ 2». 2.55** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ». 4.30** Х/ф **«СЕКСА МНОГО НЕ БЫВАЕТ». 6.25** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА». 8.30** Х/ф **«УБОЙНЫЙ ОГОНЕК». 10.25** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ». 12.15** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ! В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМИ». 14.10** Х/ф **«ПОМОГИТЕ СТАТЬ ОТЦОМ». 16.00** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ». 17.50** Х/ф **«ДОЧЬ МОЕГО БОССА». 19.30** Х/ф **«ПАПА-ДОСВИДОС». 21.40** Х/ф **«ХОТ-ДОГ». 23.45** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ».**

### Киносерия

**0.00, 7.10, 8.05, 9.00, 9.55** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 0.55, 1.50, 2.45, 3.35, 4.20, 5.15, 6.15** Т/с **«РОККО СКЬЯВОНЕ». 10.55, 11.55, 12.55, 13.55, 15.00, 16.00, 16.55, 18.00, 18.55, 20.00, 21.00, 22.00** Т/с **«ВЕЛИКАЯ». 22.55, 23.50** Т/с **«ВЕРОНИКА НЕ ХОЧЕТ УМИРАТЬ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ШАХЕРЕЗАДА. НЕРАССКАЗАННЫЕ ИСТОРИИ». **9.30** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45** Х/ф **«ВЭЛИАНТ: ПЕРНАТЫЙ СПЕЦНАЗ». 14.05** Мультфильмы «ВОЛШЕБНАЯ КНИГА». **14.20** Х/ф **«ВЕЛИКИЙ УРАВНИТЕЛЬ». 16.50** Х/ф **«ВОССТАНИЕ». 18.30** Х/ф **«ШТУРМ БЕЛОГО ДОМА». 21.00** Шоу «ПОЛНЫЙ БЛЭКАУТ». **22.00, 0.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.40** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.40** Шоу «НАШ РЕМОНТ». **1.50** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.20** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **3.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.05** Футбол. Чемпионат Англии. Вест Бромвич – Челси. **7.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 25-й тур. Торпедо-БелАЗ (Жодино) – Неман (Гродно). **9.40** Футбол. Чемпионат Англии. Тоттенхэм – Ньюкасл. **11.30** Гребля на байдарках и каноэ. Кубок мира. Сегед. **13.10** Теннис. WTA. Страсбург. Финал. **14.50** Хоккей. КХЛ. Трактор (Челябинск) – Динамо-Минск. В перерывах Спорт-центр. **17.00** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 25-й тур. Динамо-Минск – ФК Витебск. В перерыве Спорт-центр. **18.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 25-й тур. БАТЭ (Борисов) – Динамо (Брест). В перерыве Спорт-центр. **20.50** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **21.35** Пит-стоп. **22.05** Спортивные танцы. Чемпионат Беларуси.

### EUROSPORT

**0.30, 22.30** Гребля на байдарках и каноэ. Кубок мира. Венгрия. Спринт. **1.30** Автогонки. WTCR. Германия. Первая гонка. **2.00** Автогонки. WTCR. Германия. Вторая гонка. **2.30, 6.00, 9.30** Снукер. European Masters. 1/2 финала. **4.00** Теннис. US Open. Обзор. **5.00, 10.50** Теннис. «Ролан Гаррос»-2019. Обзор. **8.00** Теннис. «Ролан Гаррос»-2019. Мужчины. Финал. **11.50, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Первый раунд. **22.15** Теннис. «Ролан Гаррос». «Гейм, Шетт и Матс». **23.30** Снукер. European Masters. Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 15.10, 21.00, 2.10** Тест на «Драйве». **6.30, 14.35, 17.45, 1.10** Испытание на прочность. Эксклюзив. **7.00, 18.15** Металлоломщики. **7.45, 9.45, 13.55, 17.25, 19.05, 23.45, 1.40, 3.50** Итоговые новости. **8.00, 8.30** Советы для каждого. **9.00, 10.00** Советы юриста. **10.45** Тест с дядей Ваней. **11.05** Квадроциклы. **11.35, 13.35** Мото тест-драйв. **11.55, 19.25, 22.50, 3.05** Кругосветка по бездорожью. **12.30, 19.55, 23.25, 3.35** Школа внедорожного вождения. **12.45, 20.15, 0.05, 4.05** Супергрузовики. **14.15, 0.55** Проверка на дороге. **15.40** Сити-тестер. Эксклюзив. **16.10, 4.55** Возвращение легенды. **16.40** Байки про байки. **21.35** Автолайф. **21.50, 5.20** Вечер с Пикуленко. **22.35** Хорошо забытое. **1.55** Вторичка. **2.35** Сити-тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.35, 8.30** Речные чудовища. **9.20** Могучие реки. **10.10, 10.40, 22.00, 22.25** Нефритовая лихорадка. **11.05** Строительство гигантов. **11.50, 21.15** Поисковая команда в Австралии. **12.40, 13.25, 14.10, 15.00, 15.45, 16.35, 17.20, 18.10, 18.55, 19.45, 20.30** Австралийские золотоискатели. **22.50, 23.40** Ржавые тачки на прокачку. **0.30, 1.15, 2.00, 2.45, 3.30, 4.15** Деревенский дом. **5.00** Выживание в лесу.

### HISTORY

**6.10, 5.15** Невероятные изобретения. **6.35, 7.25, 8.10, 3.00, 3.45, 4.30** Музейные тайны. **8.55, 9.50, 12.20, 13.10** Расшифрованные сокровища. **10.40, 11.30** Мифические существа. **14.00, 14.50** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **15.40, 16.30** Частная жизнь коронованных особ. **17.20** Кельты: кровью и железом. **18.20** Смертоносный интеллект. **19.10** Боевые корабли. **20.00, 20.55** Шелковый путь между Востоком и Западом. **21.55** Тайны египетских пирамид. **22.45** Оружейники: искусство войны. **23.35, 0.25** Карты убийства. **1.15** Тридцатилетняя война – Железный век. **2.10** Загадки Египта.

### NATURE

**6.15, 7.05, 22.45, 23.35** Выживание в дикой природе. **8.00, 9.00, 10.05** Великая американская оттепель. **11.05, 12.00** Дикая Швейцария. **12.55, 13.55, 19.35, 20.40** Дикая Канада II. **15.00, 21.40** Нил: величайшая из рек. **16.05** Бескрайняя Африка. **16.55** Высокие и крошечные: крайности природы. **17.50** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **18.40** Тайная жизнь слонов. **0.25** Невероятные встречи с животными. **1.15** Хищные питомцы. **2.05** Мутации погоды. **2.50** Анатомия крупнейших животных. **3.40** Ветеринар из Йоркшира. **4.25** Уличный ветеринар. **4.55, 5.20** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **7.00, 5.00** Настоящий суперкар. **7.50, 2.00, 2.45** Авто-SOS. **8.45, 9.30, 10.20, 11.15, 12.05, 13.05** Величайшие сокровища древнего мира. **14.10, 15.00** Международный аэропорт Дубай. **15.55, 16.20, 16.45, 17.10, 3.30, 3.50, 4.15, 4.40** Фабрика еды. **17.35, 18.30** Расследование авиакатастроф. **19.20, 20.10, 22.40, 23.35** Инстинкт выживания. **21.00, 21.50, 0.25, 1.10** Путешествия с Гордоном Рамзи. **5.45** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50, 14.50, 18.55** Рыбалка в России. **7.25, 15.25, 23.35** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 11.50, 15.55, 20.00** Рыбалка 360. **8.25, 12.20, 16.25, 20.30** Егерский кордон. **8.55, 12.50, 16.55, 1.05, 5.05** Рыбалка без границ. **9.25, 13.25, 17.30, 21.35** Мир рыболова. **11.20, 19.25, 3.40** Вкусные рецепты рыболова. **21.00** На рыбалку с охотой. **23.00, 3.10** Рыболовы. **0.00, 4.10** Рыболовная Россия. **0.35, 4.40** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **1.30, 5.35** Донка против фидера. **2.55** Крылатые охотники.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.40, 22.30** Деревянная Россия. **7.00, 11.10, 15.05, 19.05, 23.00, 3.05** Старые дачи. **7.30, 11.45, 15.40, 19.30, 23.30, 3.50** Милости просим. **8.00, 12.15, 16.10, 20.05, 0.00, 4.15** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.25, 20.20, 0.20, 4.30** Забытые ремесла. **8.35, 12.50, 16.40, 20.35, 0.35, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.05, 17.00, 20.55, 0.50, 5.05** Семейный обед. **9.20, 3.35** Букварь дачника. **9.40, 13.35, 17.30, 21.30, 1.25, 5.35** Осторожно злая собака. **14.40, 18.35, 2.40** История усадеб. **1.55** Готовим на природе.

# Адкуль з'явіліся сучасны дзяржаўны сцяг і герб Беларусі

**Чырвона-зялёныя гарызантальныя палосы з чырвона-белым арнаментам збоку – так выглядае сучасны дзяржаўны сцяг Беларусі. Беларусь стала адзінай краінай на постсавецкай прасторы, якая вярнулася да савецкага сцяга з невялікімі зьмяненнямі. Тое самае тычыцца і беларускага герба. Распавядаем гісторыю сучасных дзяржаўных сімвалаў Беларусі.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Дзяржаўны сцяг Беларусі.




Фота meduza.io.

Герб Беларусі са змяненнямі 2020 года.

## Падобны сцяг быў у БССР ад 1951 года

20 студзеня 1947 года выйшла пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб дзяржаўных сцягах саюзных рэспублік». У пастанове адзначалася, што трэба ўнесці змены ў сцягі саюзных рэспублік: захаваць сімвалы СССР (чырвоны колер, серп і молат, пяціканцовую зорку) і дадаць на сцяг нацыянальныя асаблівасці.

Да гэтага ў БССР быў чырвоны сцяг, на якім у левым верхнім рагу месціліся пяціканцовая зорка, серп і молат і надпіс «БССР».

У 1951 годзе Акадэмія навук БССР пачала распрацоўку новага сцяга. Фактычна з усіх рэспублік толькі ў сцягу БССР выкарыстaлі нацыянальны арнамент. Гэты арнамент вышыты сялянкай з Віцебскай губерні **М. С. Маркевіч** у 1917 годзе. Арнамент назвалі «Узыходзячае сонца».

Сучасны сцяг Беларусі шмат у чым падобны да сцяга Беларускай ССР. Яго намаляваў **Мікалай Гусеў**. Сцяг БССР зацвердзілі 25 снежня 1951 года.

## Сучасны герб Беларусі – гэта зменены герб БССР

Ад 1919 года да 1950-га ў Беларусі змяніліся чатыры гербы. У 1950-я гады народным мастаком Савецкага Саюза **Іванам Дубасавым** быў распрацаваны новы праект герба. Лён на гербе БССР стаў адлюстроўвацца не са скрыначкамі, а з кветкамі.

З 1956 года абрэвіятура назвы рэспублікі не падзяляецца кропкамі. 28 лютага 1958 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прыняў указ аб чарговым удакладненні беларускага тэксту дэвізу, з тых часоў ён выглядае так: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!».

**Апошняе ўдакладненне герба БССР адбылося ў 1981 годзе, тады былі трохі змененыя малюнкі колераў лёну і сонечных прамянёў.**

## Як змянялі герб і сцяг у 1995 годзе

14 мая 1995 года ў Беларусі правялі рэферэндум па ініцыятыве **Аляксандра Лукашэнкі**. На рэферэндум вынеслі чатыры пытанні, сярод якіх было пытанне і пра змену дзяржаўнай сімволікі.

Пасля развалу СССР 19 верасня 1991 года беларускім сцягам быў бел-чырвона-белы, а гербам стаў герб Пагоня.

На рэферэндуме-1995 за прыняцце новага сцяга і герба прагаласавалі 75,1% (3,6 мільёна), супраць прагаласавалі 20,47% (988 тысяч), 211 792 бюлетэні ў частцы гэтага пытання прызнаныя несапраўднымі. Летам 1995 года замест бел-чырвона-белага сцяга і герба Пагоні ўвялі зменены сімвалы Беларускай ССР.

**Парламенцкая асамблея АБСЕ зрабіла выснову, што рэферэндум у Беларусі не адпавядаў усім міжнародным нормам свабоднага і справядлівага галасавання.**

Адзначаўся кантроль з боку ўрада за СМІ (што прыводзіла да недахопу або скажэння інфармацыі), умяшанне выканаўчай улады ў выбарчы працэс, перашкода дзейнасці палітычных партый.

**Сучасны герб Беларусі, прыняты на рэферэндуме 1995 года, грунтуецца на гербе БССР, што распрацаваў Дубасаў, з заменай малюнка сярпа і молата на контуры Беларусі. А са сцяга прыбралі серп і молат, крыху змянілі арнамент.**

У сакавіку 2020 года стала вядома, што герб Беларусі змяніўся.

**Малюнкі канюшыны і лёну сталі больш аб'ёмнымі, як і стужкі, якія абрамляюць кветкі.**

Контуры Беларусі сталі залатымі. Таксама зрушыўся акцэнт на глобусе: калі раней паказвалася Еўразія ад Еўропы да амаль Далёкага Усходу, то цяпер паказваецца Заходняя Еўропа да Уральскіх гор, і нават фрагмент Афрыкі. У новым варыянце Беларусь знаходзіцца ў цэнтры карцінкі.

**Настасся УТКІНА.**

---

● КАЛЯНДАР

**18 ВЕРАСНЯ**

**1915.** Кайзераўскія войскі занялі Вільню. Пачаўся Свянцянскі прарыў – наступальная аперацыя германскіх войскаў на Заходнім фронце.

**1919.** Польскія войскі акупавалі Мінск.

**19 ВЕРАСНЯ**

**1991.** Вярхоўны Савет БССР зацвердзіў назву беларускай дзяржавы – Рэспубліка Беларусь і яе дзяржаўныя сімвалы бела-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня.

**20 ВЕРАСНЯ**

**1903.** У Баку нарадзілася **Наталля Арсеннева**, беларуская паэтка. Працавала ў вілейскай абласной газеце «Сялянская праўда» (1940). Падвяргалася рэпрэсіям. У вайну жыла на радзіме мужа ў Дорах ля Валожына, Мінску. На талент Арсенневай звярталі ўвагу Максім Гарэцкі, Максім Танк. Памерла ў ЗША ў 1997.



**1944.** Вілейская вобласць перайменаваная ў Маладзечанскую, цэнтр перанесены ў Маладзечна. Скасаваная 20 студзеня 1960. Адначасова ўтвораныя Гродзенская і Бабруйская вобласці.

**21 ВЕРАСНЯ**

**1918.** Нарадзіўся **Фёдар Янкоўскі**, беларускі мовазнавец і пісьменнік (пам. у 1989). У 1940-х выкладаў беларускія мову і літаратуру ў Радашкавіцкай СШ.

**1939.** Пасля 2-дзённых баёў Чырвоная Армія заняла Гродна.

**22 ВЕРАСНЯ**

**1944.** СССР правёў першае выпрабаванне ядзернай зброі.

**23 ВЕРАСНЯ**

**1910.** Нарадзіўся **Юльян Сергіевіч**, в. Юраўшчына, цяпер Маладзечанскі раён (пам. у 1976). Беларускі паэт і настаўнік, мастак.

**24 ВЕРАСНЯ**

**1815.** Нарадзілася **Альбіна Габрыеля Пузына**, пісьменніца і мемуарыстка. Да шлюбу жыла ў маёнтку Дабраўляны, цяпер Смаргонскі раён. Сябравала з Ігнатам Ходзькам, Антоні Эдвардам Адынцом, Тамашам Занам.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Як выбраць жыццё, калі яно падаецца невыносным

**Усім бывае кепска. У некаторых момантах – душэўны або фізічны боль можа быць невыносны. У жыцці кожнага могуць здарыцца непрадбачаныя траўматычныя, крызісныя сітуацыі. Пасля іх можа з'явіцца адчуванне невыноснасці болю. Жыццё можа падавацца занадта цяжкім выпрабаваннем, і любым чынам захочацца спыніць гэты боль.**

## ТЭЛЕФОНЫ, ПА ЯКІХ ВАМ ГАТОВЫЯ ДАПАМАГЧЫ

Запішыце гэтыя нумары ў запісную кніжку, каб у любы момант ведаць, хто можа дапамагчы вам або вашаму блізкаму.

- **(8-0176) 74-66-20** – тэлефон «Даверу», Маладзечанскі РТЦСЗН, 08:00-17:00.
- **(8-017) 270-24-01** – тэлефон экстраннай псіхалагічнай дапамогі, Мінскі абласны клінічны цэнтр «Псіхіятрыя-наркалогія», круглыя суткі.
- **(8-029) 175-28-31** – лінія дапамогі асобам, якія перанеслі гвалт, валанцёры Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера.

Як спраўляцца з такімі сітуацыямі, расказаў загадчык псіханеўралагічнага дыспансера, галоўны пазаштатны доктар-псіхіятр-нарколаг Маладзечанскага раёна **Аляксандр Бажко.**

### З чым сутыкаецца чалавек у стрэсе

У такіх выпадках чалавек сутыкаецца з псіхалагічнай траўмай. І калі праблему не вырашаць, можа фарміравацца псіхічнае расстройства.

Псіхалагічная, або псіхічная траўма – гэта шкода, якую нанеслі псіхічнаму здароўю ў выніку інтэнсіўнага ўздзеяння неспрыяльных фактараў асяроддзя або вострых эмацыйных стрэсавых уздзеянняў. Гэта нават не сама траўмуючая падзея, а тое, як мы на яе рэагуем. Звальненне, страта блізкага, сутыкненне з сілавікамі, знаходжанне ў ізалятары, здрада – усе гэтыя падзеі могуць разбурыць цэласнасць псіхікі, якую мы ствараем ад нараджэння.

Першая рэакцыя на псіхічную траўму, як і на фізічную, – гэта шок. Чалавек не разумее, што адбываецца і што яму рабіць. У такі момант неабходная падтрымка. Яна можа быць у тым, што хтосьці знаходзіцца побач, дае інфармацыю кшталту: «Ты цяпер знаходзішся тут, з табой адбылося вось гэта, па дапамогу можна звярнуцца сюды».

Калі чалавек у стане шоку, у яго можа ўключыцца феномен тунэльнага бачання. У такім стане чалавек не бачыць іншых варыянтаў выйсця, акрамя аднаго. Чалавеку падаецца, што ў яго ёсць толькі абмежаваная колькасць дзеянняў, якія можа зрабіць. Але на самой справе варыянтаў заўсёды больш, чым адзін. Таму неабходна дапамагчы яму ўбачыць і іншыя варыянты выйсця і бяспечна пражыць гэты перыяд.

Самае страшнае, з чым можна сутыкнуцца ў такіх сітуацыях, – комплекс празмерных негатыўных пачуццяў, якія раней не былі ім знаёмыя. Страх, жах, сорам, прыніжэнне, гнеў, прычым усё з такой інтэнсіўнасцю, што адчуваеш: далей з гэтым жыць не магу.

### Што рабіць, калі апаноўваюць празмерныя эмоцыі

1. Больш рухацца. Наша цела дапамагае пражываць тое, што ў галаве. У быце так часам і кажуць: дурныя думкі – ідзі вагон блокаў разгрузі, адпусціць. Залаты стандарт – мінімум 30 хвілін фізічнай актыўнасці. Гэта пераключыць ад негатыўных думак і самакапання.

2. Не ізаляваць сябе. Калі чалавек перажывае празмерныя пачуцці, ён хоча застацца адзін, каб ніхто не бачыў і не ацэньваў яго. Але гэта горшы варыянт, неабходна захоўваць кантакты з сябрамі, сям'ёй. Неабавязкова настойліва абмяркоўваць траўмуючую падзею, размовы могуць быць на зусім іншыя тэмы.

Бяспечны варыянт – знайсці новых знаёмых. Таму што сябры маюць права гаварыць праўду. А з новымі людзьмі ў гэты перыяд можна адчуваць сябе больш камфортна.

3. Неабходна адрэгуляваць нервовую сістэму. Сілай перакanання чалавек можа сябе напаліць або супакоіць. Могуць дапамагчы простыя рэчы – паслухаць музыку, памедытаваць, прамаўляць афірмацыі – сцiслае тэзіснае пазітыўнае сцвярджэнне.

Негатыўныя эмоцыі ўплываюць не толькі на псіхічны стан, але і на фізічны. Ёсць такі выраз «страх паралізуе». Ён можа нібы закаваць думкі, мышцы, цячэнне крыві па арганізме. Калі ж адрэгуляваць нервовую сістэму, то запусцім механізм наладкі.

Многія дапамагаюць сабе тым, што клапоцяцца пра іншых. Можна падтрымаць бяздомнага або дапамагчы камусьці выкапаць бульбу. Гэта дапамагае пераключыцца.

4. Паклапаціцца пра базавыя патрэбы здароўя – больш спаць, часцей адпачываць, правільна харчавацца.

### Як зразумець, што ў чалавека стрэс

Чалавек адчувае душэўны боль, можа перажываць адчай і не бачыць сэнсу жыць далей, можа адчуваць глыбокую адзіноту, асабістую нявартасць. Можа нават не разумець, адкуль бяруцца такія думкі.

Важна памятаць, што ніхто ў гэтым свеце не самотны. Многія прайшлі праз падобнае, і нават горшыя рэчы, і засталіся жыць далей. Няма нічога кепскага ў тым, каб дзяліцца сваімі душэўнымі пакутамі. Гаворачы на гэтыя тэмы, чалавек ужо пачынае адчуваць сябе лепш, таму што вынес перажыванні ў знешні свет.

> **А перамены магчымыя толькі тады, калі мы выносім іх з сябе. Пакуль варымся ўнутры, нічога новага не адбудзецца. А калі чакаем ад кагосьці дапамогі, то пра гэта неабходна сказаць.**

Трывога, страх, дэпрэсія, думкі пра невыноснасць жыцця могуць быць прыкметамі цяжкага эмацыйнага расстройства. Прычынай могуць быць страта блізкага, гвалт, разрыў адносін, жорсткае абыходжанне. Важна разумець, што гэта ўжо адбылося. А засталося расстройства, а любое расстройства можна лячыць.

### Як на псіхіцы адбілася сітуацыя з каронавірусам

Гэта была новая сітуацыя. Многія людзі перафарматавалі лад жыцця, заняткі, размеркаванне часу. Большая частка людзей кажа, што было незвычайна і цікава. Паводле звестак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, 12-15% з усяго насельніцтва мае псіхічныя расстройствы. Рана ці позна яны праяўляюцца. Чаму і адкуль яны бяруцца – вялікая загадка, адказ на якую прынясе Нобелеўскую прэмію.

Частка людзей гэтыя падзеі вызначала як трывожныя, для іх гэта было цяжарам. Былі звароты ад людзей, якія перажывалі шэраг псіхаэмацыйных станаў, якія выходзілі за межы дапушчальных. Нявызначанасць спараджае жаданне штосьці патлумачыць. І ў гэтым некаторыя выходзілі на стан, пра які кажуць «неадэкватны».

Цяпер пайшла хваля зваротаў па дэпрэсіўных і трывожных станах, і іх выток – змяненні ў штодзённым жыцці з-за каронавіруса. Мы менавіта цяпер маем наступствы таго, што адбылося з-за каронавіруса.

### Як дапамагчы людзям, якія перажылі гвалт

Людзі, якія перажылі гвалт, трымаюць такія пачуцці, якімі немагчыма падзяліцца адразу. І наступствы ўсплываюць праз паўтара-два месяцы пасля падзеі. Спачатку ідзе стадыя адмаўлення, таму што чалавеку немагчыма яшчэ раз пражыць гэты жах, такія эмоцыі невыносныя. Псіхалагічная абарона адмаўляе тое, што такая падзея была.

> **Але непазбежна з цягам часу сутыкнуцца з гэтымі пачуццямі, і яны будуць выклікаць гнеў. Унутры ўсё будзе кіпець, таму важна, куды гэтыя эмоцыі накіруеш.**

Калі знойдзеш прымальную форму накіравання эмоцыі – гэта будзе добры варыянт. Калі ж гэты этап праходзіць з блакіроўкай, гэта можа прывесці да паталагічных наступстваў для здароўя.

2020 год у Беларусі многае паказаў. Я ў захапленні ад беларускай нацыі. Аб'яднанне супраць агульнай падзеі, таго ж каронавіруса, дае людзям надзею. Гэтае яднанне дапамагае спраўляцца. Яднанне вакол надзеі на лепшае дае сілы на крэатыў і стварэнне.

### Вам заўсёды гатовыя дапамагчы

Заўсёды побач ёсць людзі, гатовыя дапамагчы – сваякі, сябры. І ёсць прафесіі, якія дапамагаюць – псіхолагі, дактары, сацыяльныя работнікі. Ёсць тэлефоны даверу.

Як бы мы ні хацелі дапамагчы, першае дзеянне павінны зрабіць чалавек сам. Падзяліцца перажываннямі з тым, каму давярае. Калі лічыць, што можа зрабіць сабе шкоду, то экстранна звязацца з медыцынскімі работнікамі або блізкімі. Веруючым людзям можа дапамагчы размова са святаром. Многім становіцца лягчэй у групах узаемападтрымкі, дзе збіраюцца людзі, якія перажылі падобныя сітуацыі.

> **Неабходна запісаць тэлефоны даверу ў запісную кніжку тэлефона, каб адразу знайсці, калі спатрэбіцца самому або іншаму. Гэта можа выратаваць жыццё.**

Спадзяёмся, што ў складанай сітуацыі чалавек зможа зрабіць правільны выбар, і гэты выбар будзе на карысць жыцця. Маладзечанскі псіханеўралагічны дыспансер – мы заўсёды побач, з намі надзейна.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# У жніўні ў цэнтры «Надзея» зладзілі шэсць міжнародных праектаў

## Пяць з іх – сумесныя з Германіяй. Але самі немцы сёлета не прыехалі

ВІЛЕЙКА

**Адзін з відаў дзейнасці дзіцячага рэабілітацыйнага цэнтра «Надзея» – праекты па санаторна-курортным лячэнні і аздараўленні дзяцей і дарослых у супрацоўніцтве з замежнымі і беларускімі грамадскімі аб'яднаннямі.**




Фота з сайта ДРАЦ «Надзея».

Гуманітарная дапамога ад нямецкіх партнёраў.

У 2019 годзе тут прынялі на аздараўленне 682 дзіцяці і 196 дарослых. Рэалізавалі сорак праектаў з 17 грамадскімі аб'яднаннямі васьмі краін свету і з 12 грамадскімі арганізацыямі Беларусі.

### Нямецкі бок падтрымаў фінансава аздараўленчыя праекты

Сёлета працу ў гэтым кірунку працягваюць. Амаль увесь жнівень у дзіцячым цэнтры «Надзея» ўвасаблялі шэсць праектаў. Пяць з іх з удзелам арганізацый Германіі.

Ад 4 да 28 жніўня ў рамках аднаго з праектаў на Вілейшчыне папраўлялі здароўе дзеці з Гомельшчыны. Праект ладзілі ў супрацоўніцтве з гомельскай ГА «Дзіцячая гематалогія» пры фінансавай падтрымцы нямецкай грамадскай арганізацыі «Сябры дзяцей Чарнобыля ў Вюртэмбергу», што знаходзіцца ў Штутгарце.

У гэтыя ж дні ў «Надзеі» ладзілі яшчэ адзін праект па аздараўленні дзяцей з Гомельскай вобласці ў супрацоўніцтве з фондам «Здароўе дзецям» з Гомеля. Праект фінансава падтрымала нямецкая працоўная супольнасць «Дапамога дзецям Чарнобыля» пры Евангелічна-лютэранскай мясцовай царкве.

Дзяцей з Нясвіжа, а таксама Брагінскага і Ельскага раёнаў аздараўлялі падчас яшчэ трох жнівеньскіх беларуска-нямецкіх праектаў, апошні з якіх завяршыўся за пару дзён да пачатку восені.

У «Надзеі» паведамляюць, што ўсе ўдзельнікі праектаў атрымалі курс лячэбна-аздараўленчых працэдур, далучыліся да культурна-масавых і спартыўных мерапрыемстваў, наведалі заняткі разнастайных гурткоў.

### Многія партнёры сёлета не прыехалі ўпершыню

Нагадаем, што «Надзею» з нямецкімі арганізацыямі і фондамі звязвае даўняе сяброўства. Некалькі арганізацый Германіі з'яўляюцца заснавальнікамі фонду. Партнёры з Германіі падтрымліваюць цэнтр фінансава, прыязджаюць сюды ў якасці валанцёраў, праводзяць рамонтныя работы, ладзяць гульні, спаборніцтвы і гутаркі з беларускімі дзецьмі, дасылаюць гуманітарную дапамогу.

У ліпені цэнтр атрымаў чарговы гуманітарны груз – мэблю, ровары, страхавачнае абсталяванне для вяровачнага гарадка, запчасткі для катла на дровах, цацкі, адзенне. Арганізацыю і фінансавую падтрымку гуманітарнага грузу забяспечылі арганізацыі «Бобі» і «Жыццё пасля Чарнобыля», «Зямельны саюз садаводаў-аматараў Вестфаліі і Ліпэ».



Фота аўтара.

Лета ў «Надзеі».

Але самі нямецкія партнёры сёлета не прыехалі ў «Надзею». Прычына таму – пандэмія.

– Мы нікога не прымалі ў сябе, ды і межы былі закрытыя. Таму многія нашы партнёры і сябры з Германіі ўпершыню, ад 1994 года – часу заснавання «Надзеі», – не прыехалі да нас, – паведаміла карэспандэнту спецыяліст па сувязях з грамадскасцю дзіцячага цэнтра «Надзея» **Таццяна Мейсак**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чытач дзякуе маладзечанскім чыгуначнікам за знойдзеныя акуляры

МАЛАДЗЕЧНА

Наш чытач, маладзечанец **Аляксандр Салагуб**, дзякуе чыгуначнікам Маладзечна. Мужчына забыўся ў цягніку свае акуляры. А чыгуначнікі іх знайшлі і перадалі маладзечанцу.

«У суботу, 12 верасня, я ехаў электрацягнікам з Ласёў да прыпынку «Фестывальны». На «Фестывальным» выйшаў, агледзеўся, заўважыў, што няма акуляраў. А вяртацца назад у электрычку было ўжо позна. Дзверы зачыняліся. Відаць, паклаў іх міма кішэні.

Падышоў да касы на «Фестывальным», папрасіў, каб патэлефанавалі на чыгуначны вакзал у Маладзечне. Можа, дзяжурны будуць аглядаць цягнік і ўбачаць маю рэч. А сам паехаў на вакзал. Калі прыехаў, звярнуўся ў «даведку». Спытаў пра акуляры. А там адказваюць: «Вось, прынеслі. Калі вашы – забірайце».

Хачу сказаць дзякуй усім, хто дапамог мне ў гэтай гісторыі. Ехаў я на электрацягніку 6123, што ў 16:55 спыняецца на станцыі «Ласі».

**Аляксандр САЛАГУБ, Маладзечна.**

## Суднамадэлісты ўзялі 17 узнагарод на конкурсе ў Перу

Ад 1 жніўня да 1 верасня ў горадзе Ліма (Рэспубліка Перу, Паўднёвая Амерыка) адбылася Першая віртуальная міжнародная суднамадэльная выстава-конкурс, арганізаваная Нацыянальнай асацыяцыяй суднамадэльнага спорту Рэспублікі Перу. У выставе ўдзельнічала 270 мадэлістаў з 14 краін. Беларусь прадстаўлялі Віцебск і Маладзечна.

З 20 узнагарод, якімі былі адзначаны мадэлі беларускіх суднамадэлістаў, 17 заваявалі навучэнцы і педагогі Маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі «Маладзік». Рыхтавалі навучэнцаў педагогі **Аляксей Васільеў** і **Віталь Шахно**.

Першыя месцы занялі навучэнцы **Мацвей Зірукін** (мадэль падводнай лодкі «Альфа»), **Аляксандр Чарняўскі** (мадэль падводнай лодкі «Уладзімір Манамах»), **Арцём Шахно** (мадэль эсмінца «Настойлівы»), **Данііл Кулеш** (мадэль авіяносца «Адмірал Кузняцоў»).

Другія месцы ў **Яўгена Быкава** (мадэль баркаса «Баўнці»), Даніла Куляша (мадэль тарпеднага катара «РТ-109»), Арцёма Шахно (мадэль тарпеднага катара «S-100» і мадэль лінкора «Шарнхорст»), **Дзмітрыя Спірыдовіча** (мадэль тарпеднага катара Г-5).

Трэція месцы ў Арцёма Шахно (мадэль тральшчыка «Т-1»), Аляксандра Чарняўскага (мадэль падводнай лодкі «Ю-19»).

Педагогі Аляксей Васільеў і Віталь Шахно не толькі кіравалі навучэнцамі, а яшчэ і самі ўдзельнічалі ў конкурсе і атрымалі ўзнагароды.

За свае мадэлі Віталь Шахно атрымаў два першыя, два другія і адно трэцяе месцы. Трэцяе месца – і ў Аляксея Васільева, паведамляюць ва ўпраўленні адукацыі Маладзечанскага райвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

# Пратэстныя акцыі ў Маладзечне іх удзельнікаў




Шэсце па маладзечанскіх вуліцах 13 верасня.

**У Маладзечне працягваюцца пратэстныя акцыі. Супрацоўнікі міліцыі, якія пасля 9-13 жніўня не затрымлівалі дэманстрантаў, пачалі затрымліваць іх пасля заканчэння акцый. «РГ» распавядае, што адбывалася на тым тыдні.**

### Акцыя пасля месяца з пачатку пратэстаў

9 верасня, праз месяц пасля пачатку пратэстаў, маладзечанцы сабраліся ля Чырвонага касцёла ў Маладзечне.

У 19:00 яны сталі ў ланцуг, у якім моўчкі стаялі. У некаторых у руках былі плакаты, некаторыя трымалі бел-чырвона-белыя сцягі. У акцыі ўдзельнічала больш за 50 чалавек.

Да дэманстрантаў некалькі разоў пад'язджаў міліцэйскі аўтамабіль. Супрацоўнік з мегафонам папярэджваў пратэстоўцаў пра несанкцыяніраваную дзейнасць і адміністрацыйную адказнасць за ўдзел у ёй. Пасля чатыры супрацоўнікі міліцыі павольна прайшлі ланцуг, здымалі на камеру ўсіх удзельнікаў акцыі. У хуткім часе да іх падключыліся яшчэ тры міліцыянеры, адзін з іх таксама здымаў на камеру.

Акцыя доўжылася гадзіну. У 20:00 дэманстранты павіталі адзін аднаго воклічам «Жыве Беларусь», а потым пачалі разыходзіцца. На паркоўцы гандлёвага цэнтра «Тройка» затрымалі **Алега Цітарэнку**, які быў на акцыі з бел-чырвона-белым сцягам. Пры яго затрыманні прысутнічалі начальнік Маладзечанскага РАУС **Вадзім Прыгара**, начальнік аховы грамадскага парадку Маладзечанскага РАУС **Руслан Манькоўскі**.

Пасля затрымання Цітарэнкі да Прыгары падышлі жанчыны і прасілі патлумачыць, чаму міліцыянеры затрымалі чалавека са сцягам. Прыгара запрасіў на размову жанчыну, аднак разам з ёй пайшлі і іншыя. Пасля тую жанчыну спыніў экіпаж ДАІ і суправадзіў да РАУС, дзе на яе склалі некалькі пратаколаў па артыкуле 23.34 КоАП.

> **Людзі на паркоўцы паведамілі журналістам, што мужчына быў не адзіным затрыманым. Расказалі яшчэ пра некалькіх жанчын. Каля РАУС журналісты сустрэлі сястру затрыманай Вікторыі. Дзяжурны сказаў жанчыне, што затрыманых у хуткім часе павінны вызваліць.**

Затрыманая Вікторыя працуе настаўніцай. Яна працавала на выбарчым участку №35 на гэтых прэзідэнцкіх выбарах.

У 22:10 з будынка РАУС выйшаў Вадзім Прыгара. Ён сеў у аўто, пад'ехаў да Вялікага Гасцінца, павярнуў назад да аддзялення і заехаў ва ўнутраны дворык. Пасля гэтага манеўру з РАУС выйшла затрыманая Вікторыя, якую чакалі сваякі.

У 22:35 выпусцілі яшчэ адну дзяўчыну, **Юлію**. Яна паведаміла, што ў яе забралі тэлефон і бел-чырвона-белы сцяг. Вядома, што на яе склалі пратакол па артыкуле 23.34 КоАП.

У 23:05 з аддзялення міліцыі выйшла яшчэ адна жанчына. Яе завуць **Наталля**. Наталля сказала, што на яе склалі пратакол па артыкуле 23.34. І дадала, што ў РАУС ёсць яшчэ адна жанчына, якую затрымалі разам з ёй.

У 23:45 адпусцілі яшчэ адну **Вікторыю**. Яе затрымалі, калі ехала разам з Юліяй і Наталляй, якіх выпусцілі раней. Пасля кароткай размовы з Прыгарам на паркоўцы «Тройкі» Вікторыя паехала з дзяўчатамі ў бок мікраараёна №11. Па дарозе туды машыну спыніў экіпаж ДАІ. Інспектары збіраліся скласці два пратаколы – за няпройдзены тэхагляд і непрышпіленыя рамяні бяспекі ў дзяўчат. Вікторыя хацела, каб пратаколы склалі на месцы, аднак інспектары адвезлі яе і дзяўчат у аддзяленне.

У РАУС на Наталлю склалі пратаколы яшчэ і па артыкуле 23.34 КоАП.

Алег Цітарэнка не выйшаў пасля трох гадзін з РАУС. Ноч ён правёў у Маладзечанскім ізалятары часовага ўтрымання. Яго судзілі на наступны дзень, 10 верасня.

### Традыцыйнае нядзельнае шэсце

13 верасня ў Маладзечне прайшло шэсце пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Напрыканцы акцыі пачаліся затрыманні ўдзельнікаў. Карэспандэнты «РГ» распавядаюць і паказваюць, як гэта адбывалася.

Каля 14:30 прыкладна 200 чалавек сабраліся каля Лядовага палаца. Некаторыя былі з бел-чырвона-белымі сцягамі. Супрацоўнікі міліцыі дзяжурылі ля Лядовага палаца і на паркоўцы «Тройкі» яшчэ да пачатку акцыі.

Пасля таго як людзі дасталі бел-чырвона-белыя сцягі і сталі ў групу, пад'ехала міліцэйская машына. Міліцыянер з аўтамабіля на аўтобусным прыпынку паўтараў, што дадзенае мерапрыемства несанкцыяніраванае, і прасіў разысціся, а ўдзел у несанкцыяніраваных мерапрыемствах прадугледжвае адміністрацыйную адказнасць.

Пратэстоўцы ўключылі аўдыязапіс прысягі беларускіх сілавікоў. З дынаміка пратэстоўцаў гучаць таксама артыкулы Крымінальнага кодэкса і адказнасць за іх.

Удзельнікі акцыі перайшлі на іншы бок Вялікага Гасцінца – ад Лядовага палаца да «Тройкі». Адтуль яны крочылі шэсцем па вуліцы.

Пратэстоўцы скандзіруюць «Молодечно, выходи», «Лукашенко, уходи». Шэсце суправаджалі не менш за чатыры машыны міліцыі.

Людзі скандзіруюць «Мы здесь власть», «Трибунал», «Сколько стоит совесть?».

У міліцэйскіх аўто сядзяць людзі ў міліцэйскай форме, балаклавах і са схаванымі пад чорнай тканінай пагонамі. У кожным з такіх аўто – супрацоўнік з мегафо-

# працягваюцца з затрыманнем



Затрыманне Алега Цітарэнкі пасля акцыі ля касцёла.




Сілавікі затрымліваюць мужчыну ля Лядовага палаца.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

нам, які кажа пра несанкцыяніраванае мерапрыемства і адказнасць за яго, і супрацоўнік з відэакамерай, які здымае дэманстрантаў.

Пратэстоўцы дайшлі да парку. Там з акна машыны высунуўся мужчына, пачаў крычаць, нецэнзурна лаяўся ў бок дэманстрантаў. Удзельнікі акцыі ніяк не рэагавалі на яго.

Дэманстрантаў шмат людзей падтрымлівалі з вокнаў сваіх дамоў. Некаторыя махалі бел-чырвона-белымі сцягамі з балконаў.

Пратэстоўцы дайшлі да перасячэння скрыжавання вуліц Забэйды-Суміцкага – Таміліна. Яны перайшлі на іншы бок Вялікага Гасцінца і павярнулі зноў у бок Лядовага палаца. Падчас гэтага мужчына ў балаклаве на заднім сядзенні міліцэйскага аўто паказаў непрыстойны жэст удзельніцы акцыі, якая паказвала яму знак «V».

Удзельнікі акцыі ішлі назад да Лядовага палаца. На зваротным шляху пратэстоўцы пачалі разыходзіцца.

На скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Віленскай жанчына з балкона пачала абражаць удзельнікаў акцыі, паказваць непрыстойныя жэсты.

Яшчэ адна жанчына на Вялікім Гасцінцы спрабавала даведацца, колькі плацяць пратэстоўцам за ўдзел у акцыі. Яна выказала здагадку, што пяць долараў.

Людзі падышлі да Магістральнай, пачалі абмяркоўваць, куды яны рушаць далей. У гэты ж час ля крамы «Гастраном», што на Вялікім Гасцінцы, затрымалі маладзечанца **Аляксандра**. Яго жонка **Марына** распавяла карэспандэнтам, што мужчына быў на шэсці ўпершыню. У Аляксандра сардэчная хвароба. Родныя хваляваліся, ці змогуць перадаць лекі.

Дэманстранты пайшлі ў бок «Тройкі», міліцэйскія машыны паехалі на паркоўку «Модуля» і «Тройкі». Там пачаліся затрыманні.

У краме «Суседзі» затрымалі чалавека. Пазней высветлілася, што яго завуць **Аляксей Крымоўскі**. Міліцыянеры зайшлі ў краму, пачакалі, пакуль мужчына аплаціць пакупкі, падышлі да яго і сказалі, што затрымліваюць за ўдзел у акцыі. Мужчына казаў, што проста прыйшоў у краму. Але міліцыянеры адвялі яго ў службовае аўто.

На паркоўку «Тройкі» пад'ехаў яшчэ адзін міліцэйскі аўтамабіль. У ім ужо сядзеў адзін з затрыманых.

Відавочцы паведамілі, што ля «Модуля» затрымалі жанчыну і мужчыну, калі яны садзіліся ў сваю машыну.

Міліцыянеры працягвалі затрымліваць людзей і каля Лядовага палаца. Па назіраннях нашых карэспандэнтаў, супрацоўнікі затрымалі мінака, ён не супраціўляўся.

У 16:50 ва ўнутраны двор Маладзечанскага РАУС заехалі аўтобус і бус без нумароў. У салоне знаходзіліся сілавікі ў чорнай форме, бронекамізэльках і абарончых шчытках. На тэрыторыі РАУС яны прабылі не больш за паўгадзіны, пасля з'ехалі.

**На 17:00 было вядома, што ў Маладзечне затрымалі не менш за сем чалавек.**

Марына, у якой затрымалі мужа ля «Гастранома», спрабуе даведацца, дзе ён знаходзіцца і як перадаць яму лекі. Спачатку ёй казалі, што яго ў РАУС няма, а пасля запрасілі зайсці ў будынак. Жанчыны не было дастаткова працяглы... межак часу. Пасля ёй патэлефанавала знаёмая, якая таксама знаходзілася ля РАУС. Марына паведаміла, што яе затрымалі і склалі пратакол.

У гэты ж час міліцыянер у балаклаве зачыняў і адчыняў дзверы з чырвона-зялёным сцягам, а таксама махаў ім. Гісторыя з чырвона-зялёнымі сцягамі не завяршылася. Пасля мужчына ў цывільным ва ўнутраным дворыку РАУС замацаваў адзін са сцягоў да міліцэйскага аўто. Другі сцяг ужо знаходзіўся ў «Патрыёце». Пасля калона з дзвюх міліцэйскіх машын з дзяржаўнымі сцягамі выехала ў горад.

Пасля 20:00 з аддзялення міліцыі выйшла Марына. Яна расказала, што зайшла ў РАУС, каб перадаць лекі мужу Аляксандру, якога затрымалі каля «Гастранома». За ёй зачынілі дзверы і сказалі, што яна затрыманая. Жанчына падпісала пратакол, у яе забралі мабільны тэлефон. Сказалі, што суд па яе справе мае адбыцца 14 верасня. Жанчына паведаміла, што маглі адпусціць яшчэ адну дзяўчыну.

Праз паўгадзіны, у 20:30, з міліцыі выйшаў той самы Аляксандр, якога затрымлівалі каля «Гастранома». Расказаў пра затрыманне – міліцыянеры былі ў форме, але не прадстаўляліся. У міліцыі супрацоўнікі размаўлялі ветліва, збіцця не было. Склалі пратакол па артыкуле 23.34 за ўдзел у несанкцыяніраваных масавых мерапрыемствах, сказалі чакаць суда. Лекі ад жонкі яму перадалі.

Больш нікога з затрыманых у гэты вечар не адпусцілі. Яны заставаліся ў маладзечанскім ізалятары часовага ўтрымання да суда.

**Аддзел інфармацыі.**

## Генпракуратура: за ўдзел дзяцей у акцыях іх могуць забраць з сям'і

**За ўдзел непаўналетніх у масавых акцыях пратэсту ім самім і іх бацькам пагражае адміністрацыйная адказнасць: ад штрафу да таго, што дзіця забяруць з сям'і.**

Пра гэта начальнік аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства аб непаўналетніх і моладзі Генеральнай пракуратуры Беларусі **Аляксей Падвойскі** распавёў у эфіры тэлеканала «СТБ».

Падвойскі заявіў, што ўдзел непаўналетніх у несанкцыяніраваных масавых мерапрыемствах азначае парушэнне як унутраных, так і міжнародных прававых актаў, якія рэгулююць правы дзіцяці і адказнасць бацькоў, бо дзіця ў такім выпадку знаходзіцца ў месцы, дзе няма гарантый яго бяспекі, а бацькі нясуць адказнасць за падобныя дзеянні не толькі ў нас, але і за мяжой.

Ён распавёў, што, у асноўным, з бацькамі, якія бралі дзяцей на акцыі, праводзяцца гутаркі, а таксама ў іх адрас выносяцца афіцыйныя папярэджанні, але ў некаторых выпадках органы апекі і папячыцельства могуць ставіць пытанне аб сацыяльна небяспечным становішчы дзіцяці.

Як распавёў прадстаўнік Генпракуратуры, калі ў несанкцыяніраванай акцыі прымае ўдзел падлетак, старэйшы за 16 гадоў, то на яго, як і на паўналетніх удзельнікаў, можа накладацца штраф. А калі на акцыі з'явілася малодшае дзіця, то адказнасць могуць панесці ўжо бацькі па артыкуле 9.4 (Невыкананне абавязкаў па выхаванні дзяцей) Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

**Паводле ctv.by.**

# Галоўны трэнер «Смаргоні» атрымаў чырвоную картку

**У матчы паміж «Смаргонню» і «Лідай» галоўны трэнер смаргонскага клуба Вячаслаў Герашчанка атрымаў чырвоную картку.**



Вячаслаў Герашчанка трэніруе смаргонскі клуб з сезона-2020.

Фота vk.com/fcsmorgon_news.

### Выдаленне і матч без галоў

У 17-м туры чэмпіянату першай лігі «Смаргонь» сустракалася з «Лідай». Смаргонцы правялі выязны матч. Гульня завяршылася без галоў – 0:0.

**Асноўнымі момантамі ў гульні былі толькі карткі футбалістаў з двух бакоў і трэнера «Смаргоні».**

Галоўнага трэнера выдалілі з гульні яшчэ на 35 хвіліне, у першым тайме. Ён пакінуў броўку на полі, падняўся на трыбуны.

### «Розніцы няма»

У каментарыі для прэс-службы смаргонскага клуба Вячаслаў Герашчанка адказаў, што не памятае, калі апошні раз атрымліваў ад суддзі чырвоную картку.

– Праблем з кіраваннем каманды з лаўкі запасных або з трыбуны няма. На 10 метраў далей. Розніцы няма. Мы таксама перагаворваліся з трэнерамі, калі рабілі замены. Адзінае, нельга было бліжэй падбегчы і нешта падказаць. Аншлагу на стадыёне не было, таму і так усё было чуваць.

### Што са «Смаргонню» ў чэмпіянаце першай лігі

«Смаргонь» ідзе на пятым радку ў турнірнай табліцы першай лігі. Ад лідара табліцы рэчыцкага «Спадарожніка» смаргонцы адстаюць на 13 ачкоў.

Наступная гульня для смаргонскіх футбалістаў адбудзецца 19 верасня на дамашнім стадыёне са «Слонімам».

**Настасся УТКІНА.**

## Маладзечанскі адзінаборца падзякаваў за падтрымку

Шматразовы чэмпіён свету па кікбоксінгу і тайскім боксе **Аляксей Кудзін** стаў першым спартсменам, які атрымаў дапамогу ад Фонду спартыўнай салідарнасці.

**Фонд стварылі беларускія спартсмены некалькі тыдняў таму, напрыканцы жніўня.**

Аляксей Кудзін быў затрыманы і збіты сілавікамі 10 жніўня ў Маладзечне. Пазней паведамлялася, што Кудзін знаходзіцца ў статусе абвінавачанага.

– Хачу выказаць вялізную падзяку Фонду спартыўнай салідарнасці за тое, што падтрымаў мяне ў цяжкую хвіліну. Таксама хачу падзякаваць і за тое, што падтрымлівае кожнага спартсмена ў такі нялёгкі час, змагаецца за кожнага. Толькі разам мы сіла!

**Аддзел інфармацыі.**

## Смаргонка стала першай на абласной спартакіядзе па дзюдо

4 і 5 верасня ў Гродне адбылася абласная спартакіяда школьнікаў па дзюдо сярод юнакоў і дзяўчат 2006-2007 гадоў нараджэння. Смаргонская СДЮШАР таксама прыняла ўдзел у спаборніцтвах.

Трэцімі ў сваіх вагавых катэгорыях сталі **Аляксандра Лукоўская**, **Кірыл Жабінскі**, **Яўген Гайдукевіч**, другім – **Арсень Захараў**.

Золата – у **Яны Нурчынскай**. Яна стала першай, хто атрымаў месца ў зборнай Гродзенскай вобласці па дзюдо для ўдзелу ў рэспубліканскай спартакіядзе школьнікаў, паведамляюць у Смаргонскім райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**

## Аўтару «Прэсбола» Сяргею Шчурко далі 15 сутак

Вядомы беларускі спартыўны журналіст і ініцыятар шматлікіх дабрачынных праектаў **Сяргей Шчурко** знаходзіцца ў ЦІП на Акрэсціна.

**Суд над Шчурко адбыўся 14 верасня. Сяргей атрымаў 15 сутак на падставе часткі 1 артыкула 23.34 КоАП РБ.**

Журналіст прапаў у панядзелак, 14 верасня. Аб гэтым паведаміла былы прэс-сакратар «Дынама-Брэст» **Вольга Хіжынкова**. Шчурко перастаў выходзіць на сувязь ад 13:00. Са слоў Хіжынковай, Сяргей паспеў напісаць, што да яго едуць на размову супрацоўнікі міліцыі.

**Паводле pressball.by.**

## Алена Леўчанка – беларускім хакеістам: хлопцы, мы ўсе разумеем

Вядомая баскетбалістка **Алена Леўчанка** звярнулася да беларускіх хакеістаў, якія радзей за іншых спартсменаў у краіне выказваюць сваю грамадзянскую пазіцыю.

– Карыстаючыся момантам, хачу звярнуцца да нашых хакеістаў. Хлопцы, мы вас вельмі чакаем. Вельмі многія пытаюцца: ну, дзе ж нашы хакеісты? І я ўвесь час кажу: ну вось, павінны, павінны... Таму, паважаныя хакеісты, мы вас чакаем. Мы ўсе разумеем, але мы вас чакаем, – сказала Леўчанка ў інтэрв'ю Радыё Свабода.

**Аддзел інфармацыі.**

## Хадасевіч: у «Іслачы» тры месяцы не плацяць заробкі

Тэлежурналіст і блогер **Мікалай Хадасевіч**, родам з Маладзечна, на сваім ютуб-канале распавёў аб фінансавым становішчы футбольнага клуба «Іслач».

– Ёсць пытанне. Быццам бы «Іслач» падабралася да тых мэт, якія ставіла ў міжсезонне – чацвертае месца ці барацьба за п'едэстал. Склад збіралі нездарма. Там, дарэчы, тры месяцы не плацяць зарплату.

**Не ведаю да гэтага часу, на што «Іслач» здольная. Яна і сама не вельмі ведае.**

І таму глабальных высноў рабіць не буду. Проста пачакаю будучую сустрэчу «Іслачы» з мінскім «Дынама».

Цяпер «Іслач» займае 5-е месца ў турнірнай табліцы вышэйшай лігі.

**Ютуб-канал Hadasevich.**

## Зяленскі паставіў задачу: прывезці ва Украіну Алімпіяду

Аб гэтым паведаміў міністр спорту Украіны **Вадзім Гутцайт**. Гутцайт заявіў, што прэзідэнт **Уладзімір Зяленскі** жадае правесці ў краіне Алімпійскія гульні.

– Прэзідэнт паставіў задачу: прывезці Алімпіяду ва Украіну. Але для гэтага трэба матэрыяльна-тэхнічная база. Цяпер мы глядзім, магчыма гэта ці не. Калі магчыма, то што трэба пабудаваць. Прэзідэнт тыдзень назад сказаў мне даць тэхнічнае заданне, што трэба для Алімпійскіх гульняў. Цяпер мы гэта рыхтуем, – сказаў Гутцайт.

**Паводле ua.tribuna.com.**

# Крыжаванка

## ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Яму прысвечаная скульптурная кампазіцыя на цэнтральнай плошчы Вілейкі ў выглядзе дрэва.
3. Рэчыва з тлушчу і шчолачы, якое лёгка распускаецца ў вадзе.
4. Прыклад, па якім ідуць іншыя.
7. Самая ўпартая рэч у свеце.
9. Узор або малюнак з рознакаляровых кавалачкаў шкла, дрэва, мармуру, шчыльна падагнаных адзін да аднаго.
11. Сказаць.
12. Пошукам чаго прысвечаны твор Кузьмы Чорнага, у якім ёсць такая цытата: «Як свет стаіць, то яшчэ не было вядома, каб на нянавісці вырасла шчасце, а радасць на чужой бядзе».
17. Грунт ці штучнае збудаванне, на якім трымаецца, знаходзіцца што-небудзь; падмурак.
18. Металічны грашовы знак.
20. Гэты стан у Беларусі зліквідавалі бальшавікі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.
23. Урачыстае свята.
24. Ён штогод худзее ад студзеня да снежня.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Разам.
2. У 1948 годзе ў Ізраілі іх было 4,4 мільёна, у 1972-1973 – 112 мільёнаў, у 1981-1982 – больш за 150 мільёнаў.
5. Дарэмна, упустую.
6. Пастаянная прыналежнасць, характэрная прыкмета.
8. Збор, скліканне з пэўнай мэтай.
10. Чалавек, слепа адданы сваёй веры і нецярпімы да іншых веравanняў і іншаверцаў.
13. Жаданне задаволіць свае патрэбы, імкненні.
14. Халодны будынак, прызначаны для захоўвання збожжа, мукі і іншых прадуктаў, а таксама рэчаў.
15. Сказаць уголас, не ціха.
16. Назва населенага пункта на Маладзечаншчыне, якому прысвяціў кнігу краязнаўца Генадзь Каханоўскі.
19. Навучанне, адукацыя.
20. Калі гэты прадмет дарагі, то яго грані вострыя. А калі літы або прасаваны, то закруглёныя.
21. Максім Багдановіч: «Ізноў пабачыў я сялібы, Дзе леты першыя прайшлі: Там сцены мохам параслі, … адлівалі шыбы».
22. Заўзятасць, гарачнасць, моцнае захапленне.

### Адказы на крыжаванку з №37

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Авечкі. 5. Аўта. 6. Талерка. 11. Ціск. 12. Кенгуру. 13. Танга. 14. Лясы. 16. Вакал. 18. Герб. 20. Цёзка. 22. Важна. 23. Сюжэт. 24. Сэрца.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Справа. 2. Сярнічка. 3. Машыніст. 7. Злоце. 8. Дотык. 9. Сцяна. 10. Вар. 15. Сяліба. 16. Валынка. 17. Валока. 19. Цуглі. 21. Крэва. 23. Схема. 24. Сырадой. 25. Міраж. 26. Эгалітарны.

## ● ГАРАСКОП НА 18-24 ВЕРАСНЯ

**АВЕН.** Неабходна берагчы сябе і берагчы здароўе. Не трацьце сілы на тых, хто не заслугоўвае вашай увагі і прымушае адчуваць дыскамфорт. Арганізуйце вечар з добрымі сябрамі, вам неабходны зарад пазітыўных эмоцый.

**ЦЯЛЕЦ.** Вельмі ўдалымі акажуцца грашовыя ўкладанні. Прычым удалыя пакупкі яшчэ і настрой падымуць. Пастарайцеся адшукаць тое, што даўно хацелі набыць, – на гэтым тыдні вам пашанцуе.

**БЛІЗНЯТЫ.** Будзе падавацца, што многія спрабуюць з вамі пасварыцца і накіроўваюць негатыў менавіта ў ваш бок. Давядзецца адмятаць гэтыя непрыемныя стрэлы. А яшчэ лепш знайсці занятак, якім будзеце займацца толькі вы.

**РАК.** Вас чакае шмат навін. Добра тое, што большасць з іх – прыемныя. Тым не менш будзе падавацца, што вашы сілы на зыходзе і вы не ў стане прымусіць сябе нічога зрабіць. Выдатна, што заўсёды ёсць людзі, гатовыя вас падбадзёрыць.

**ЛЕЎ.** Вам будзе не проста пераносіць чужое ныццё і спрабаваць падбадзёрыць блізкіх людзей і калег. Але гэта самая важная справа, ад якой будзе вельмі многае залежаць. Часам важна не столькі тое, што робім мы, колькі дапамога зрабіць нешта іншым.

**ДЗЕВА.** Вас чакаюць незабыўныя рамантычныя прыгоды, ад якіх пойдзе кругам галава. Таму што менавіта цяпер вы ўбачыце свайго абранніка ў тым святле, якое пакажа, што вы чакалі менавіта яго. Што можа быць больш каштоўным за такія адкрыцці.

**ШАЛІ.** Вы зможаце закрыць усе пытанні, якія вас вельмі хвалююць апошнім часам. Калі разберацеся са справамі, то зможаце ўздыхнуць з палёгкай. І тады раптам зразумееце, што гэта менавіта тое, чаго вы так доўга чакалі.

**СКАРПІЁН.** Блізкія людзі будуць раздражняць, будзе падавацца, што вас проста не разумеюць. Але варта запомніць адзін просты прынцып. Калі вы хацелі б штосьці атрымаць, пра гэта трэба папрасіць. Гэта першы крок да паразумення паміж людзьмі.

**СТРАЛЕЦ.** Ёсць рызыка нарабіць памылак, якія прывядуць да скандалу. Пастарайцеся згладзіць вуглы і не правакаваць калег. Хутчэй за ўсё, гэта дапаможа захаваць прыязную атмасферу на рабоце.

**КАЗЯРОГ.** Самым пільным пытаннем стане здароўе. Нават калі вы не будзеце адчуваць відавочных праблем, пастарайцеся не цягнуць і звярнуцца па дапамогу. Гэта можа не толькі аблегчыць самаадчуванне, але і проста выратаваць.

**ВАДАЛЕЙ.** Важна, каб усе сур'ёзныя дзеянні вялі да канкрэтнага прагназаванага рашэння. Пры гэтым важна не апірацца на грашовыя вартасці. Самае каштоўнае ў грашах вымераць немагчыма.

**РЫБЫ.** Вам будзе падавацца, што кепска спраўляецеся з задачамі, якія на вас усклалі. Вам зоркі раяць: слухайце сваё сэрца, яно заўсёды ведае, якія ўчынак быў бы правільны.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | 4 | | | | | | |
| | | | | 7 | 4 | 3 | 9 | |
| | 1 | | 8 | | | | 6 | |
| | | | 7 | 2 | | 4 | | 1 |
| 5 | | 2 | | | | 6 | | |
| | 3 | | 5 | 6 | 8 | | | |
| 6 | | 8 | | 3 | 5 | | | |
| 1 | | | | | 7 | | 3 | |
| 7 | 2 | | | | | | 4 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!
RG_RHBY

# Канцэрт гурта «J:МОРС» у Маладзечне адмянілі за суткі да падзеі

## Вядомая новая дата

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра адмену канцэрта паведаміў гурт, адпаведная аб'ява была размешчаная каля касы.**

Палац культуры накіраваў зварот прадпрыемству, з якім заключалі дагавор аб правядзенні канцэрта яшчэ 15 студзеня. Зварот датаваны 9 верасня. Канцэрт мусіў адбыцца 10 верасня.

У звароце адзначана: «У сувязі з эпідэміялагічнай абстаноўкай на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, рэкамендацыямі Міністэрства аховы здароўя аб абмежаванні правядзення мерапрыемстваў, на падставе вашых зваротаў, канцэрт пераносіўся, што адбілася на продажы білетаў…

Да цяперашняга часу эпідэміялагічная абстаноўка не стабілізавалася, што ўплывае на рэалізацыю білетаў і, адпаведна, на рэнтабельнасць праекта.

Акрамя таго, у апошні час грамадзяне вяртаюць білеты ў сувязі з неспрыяльнымі ўмовамі надвор'я.

Улічваючы вышэйсказанае, праводзіць мерапрыемства лічым немэтазгодным. Прапануем вам падпісаць пагадненне аб скасаванні дамовы або разгледзець пытанне аб пераносе мерапрыемства».

10 верасня ў афіцыйнай суполцы гурта скрын звароту суправаджаецца наступным допісам:

«Мы да апошняга спадзяваліся, што не давядзецца рабіць такі пост. Яшчэ ўчора вечарам мы ладзілі рэпетыцыю і рыхтаваліся сустрэцца з вамі на сённяшнім канцэрце ў амфітэатры. Але ў лісце змешчаныя прычыны, па якіх сённяшні канцэрт у Маладзечне не адбудзецца.

Адміністрацыя літаральна за суткі да канцэрта ўсвядоміла складанасць эпідэміялагічнай сітуацыі ў горадзе.

Высновы рабіце самі.

> **Скажам толькі, што ні разу за дзесяцігоддзі нашай гастрольнай дзейнасці канцэрты не адмянялі за суткі па ўказаных прычынах.**

Мы зрабілі ўсё магчымае, каб новая дата канцэрта была вядомая ўжо сёння. І яна ёсць – 11 снежня 2020 года».

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **У Маладзечне жыве геолаг, які асабіста ведаў навукоўца, акадэміка, доктара навук, брата пісьменніка Максіма Гарэцкага Гаўрылу Гарэцкага.**

## 19 верасня, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 5 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература +1,1°С у 1977 годзе
Максімальная тэмпература +26,4°С у 2018 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7 мм у 2007 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Як вы ставіцеся да бел-чырвона-белага сцяга?



**Ірына, Маладзечна:**
– Увогуле нармальна адношуся, я хацела б, каб бел-чырвона-белы сцяг лунаў над гарадамі.



**Андрэй, Маладзечна:**
– Стаўлюся выдатна, гэта наш гістарычны сцяг. Ён быў у часы, калі Беларусь была ў складзе Польшчы. Наш прэзідэнт даваў прысягу пад гэтым сцягам. Чаму я павінны да яго дрэнна ставіцца?



**Уладзімір, Маладзечна:**
– Адмоўна! Нам трэба толькі чырвона-зялёны сцяг... Я ўжо шмат гадоў пражыў, нарадзіўся пасля вайны, 9 мая 1945. Трэба, каб Беларусь як і была дагэтуль, больш я вам нічога не магу сказаць. Мы за Беларусь, за нашага бацьку.



**Святлана, Вілейка:**
– Стаўлюся адмоўна, бо я за спакойную, за мірную Беларусь. Каб мае дзеці, каб мае ўнукі хадзілі ў школу і не баяліся хадзіць па вуліцах. Мяне ўсё задавальняе, магчыма, нешта, канешне, не задавальняе, але заўсёды ёсць плюсы і мінусы.



**Ірына, Маладзечна:**
– Я ніяк да яго не стаўлюся, не цікаўлюся гэтымі «праблемамі». Гісторыю сцяга не ведаю.



**Вячаслаў, Маладзечна:**
– Я добра стаўлюся, чаму не? Трэба ж нешта мяняць у Беларусі, а то ўжо надакучыла, больш за 20 гадоў... дастала.



**Дар'я, Маладзечна:**
– Да сцяга ставімся вельмі добра, гісторыю яго ведаем. Тую самую легенду: як паранілі чалавека, яму далі белую тканіну, ён ёю перавязаў рану, і так атрымаўся сцяг.

**Падрыхтаваў Аляксей КАСТОЎСКІ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№38 (1325) 18.09.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1558. Падпісана ў друк у 9.00 17.09.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.